*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года №45(430) 10 ЛІСТАПАДА 1999 г.

# У нас ізноў юбілей. Сёння мы выдаём 100 - ы нумар газеты "Наша слова" ў Лідзе.

## ЗВАРОТ

Спадар Міхаіл Кнайт, Прэзыдэнт
Спадар Санді Голловай, Галоўны Выканаўчы Службовы
С.А.К.А.Г. (Сіднэйскі Арганізацыйны Камітэт Алімпійскіх Гульняў)
235 Джон Стрыт, Сіднэй, Новы Паўдзённы Уэльс,2001, Аўстралія

Паважаны сп. М.Кнайт і сп. Голловай

Да афіцыяльнай прысутнасьці на "Алімпіядзе 2000" у Сіднэі – былога "Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь".

Нам стала вядома, што спадар Аляксандр Лукашэнка – былы Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь, намерваецца прысутнічаць на "Алімпіядзе 2000" у Сіднэі як афіцыяльны Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь. Згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь 1994 году: "Выбары Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, раздзел 4, артыкул 97, Прэзідэнт выбіраецца непасрэдна народам Рэспублікі Беларусь. Тэрмін паўнамоцтваў Прэзыдэнта пяць гадоў". Будучы выбраным на пасаду Прэзыдэнта ў 1994 годзе, згодна з Канстытуцыяй, яго кадэнцыя закончылася 22.7.1999-ым годзе. Згодна з законам Канстытуцыі 16.5.1999-га года ў Рэспубліцы Беларусь адбыліся выбары, і быў выбраны новы Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь спадарМіхаіл Чыгір, якога за тры месяцы да выбараў Лукашэнка арыштаваў і трымае ў турме без ніякіх абвінавачванняў.

Сп. А.Лукашэнка, ігнаруючы Закон Канстытуцыі, вырашыў не вызнаваць выбары праўнымі і застаецца выконваць абавязкі Прэзыдэнта на неабмежаваны час да наступных выбараў, якія ён прызначыць калі яму будзе выгадна.

Раздзел 4, артыкул 104 і 105 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь зазначае: - "Прэзыдэнт можа быць зняты з пасады ў выпадку парушэння Канстытуцыі пастановай Вярхоўнага Савета і яго паўнамоцтвы да прынясення Прысягі нававыбраным Прэзыдэнтам пераходзяць да Старшыні Вярхоўнага Савета". Старшынёй Вярхоўнага Савета ў час выбараў 16.5.1999 г. быў сп.Сямён Шарэцкі, але адразу пасля выбараў, апасаючысь за сваё жыццё, сп. С.Шарэцкі быў вымушаны прасіць Урад Рэспублікі Летува даць яму часовы прытулак у гэтай краіне.

Зазначаем, што ўсе дэмакратычныя краіны свету, уключна Злучаныя Штаты Амерыкі, не вызнаюць сп.А.Лукашэнка як легітымнага Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь.

Як прыклад, мы хочам звярнуць Вашу ўвагу на яго дыктатарскі спосаб кіраўніцтва дзяржавай. Атрымаўшы ўладу, ён адразу загадаў правесьці непраўны рэферэндум, і як Вы памятаеце, на Алімпіядзе ў Атланце 1996-ым годзе замяніў нацыянальную сімволіку, Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і старадаўні Герб "Пагоня", на былую савецкую, якую Беларуская Незалежная Дзяржава прымушана ўжываць і на сённяшні дзень.

Сп. А.Лукашэнка ў прамове перад ім створаным "урадам" ўсенародна параўноўвае сябе з Адольфам Гітлерам і прапануе павесьці Беларусь па слядах Фашысцкай Германіі. Галоўная мэта сп.А.Лукашэнкі – гэта ліквідацыя Рэспублікі Беларусь як незалежнай дзяржавы, поўная інтэграцыя ў склад Расійскай Фэдэрацыі і балаціраванне на пасаду Прэзыдэнта Расійскай Фэдэрацыі.

Для таго, каб Вы змаглі больш дасканала зразумець слажыўшуюся сытуацыю ў Рэспубліцы Беларусь, мы радзім Вам паглядзець тэлевізійную праграму "Замежны Карэспандэнт", "Забытая Краіна", прадстаўленую Джоржам Нігус па "АБЦ" 4.8.1998-га году.

Таму мы, грамадзяне Аўстраліі Беларускага паходжання, шануючы прынцыпы дэмакратыі і правы чалавека, звяртаемся да Вас, Алімпійская Фэдэрацыя Аўстраліі, не даваць сп. А.Лукашэнку ганаровага права Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь на "Алімпіядзе 2000".

Ідэалы Алімпіяды – гэта справядлівасць, сяброўства і пашана, і таму мы верым, што Вы высветліце гэтую справу з Інтэрнацыянальным Алімпійскім Камітэтам і дасьце справядлівы высноў.

Мы звяртаемся да ўсіх народаў свету падтрымаць нашую ініцыятыву, каб паказаць такім дэмакратам як сп.А.Лукашэнка, што ім няма мейсца ў дэмакратычным свеце сярод вольных людзей.

20.10.1999 г. З пашанай да Вас

*Упаўнаважаны Управай Ф.Р.Б.А. у А. сябра Управы Алег Шнэк.*
*Сакратар Управы Павел Гуз.*

28.10.1999 г. № 6-04/1771
на № 442 ад 21.09.1999 г.
Старшыні Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
спадару Трусаву А.

Паважаны спадар Трусаў!

Упраўленне адукацыі Мінгарвыканкама паведамляе Вам наступнае.

Згодна інфармацыі раённых аддзелаў адукацыі на пачатак 1999-2000 навучальнага года ў Мінску існуе 12 беларускамоўных дзіцячых садкоў і 130 беларускамоўных груп, у якіх увесь выхаваўча-адукацыйны працэс праводзіцца на беларускай мове.

Апроч таго, усе дашкольныя ўстановы карыстаюцца нацыянальнай праграмай "Пралеска", "Праграмай выхавання і навучання ў дзіцячым садзе" і ў адпаведнасці з імі ўсе астатнія дзеці вывучаюць родную мову і знаёмяцца з нацыянальнай культурай, мастацтвам, народнымі традыцыямі на занятках па мастацкай літаратуры, развіццю мовы, музычных, на святочных ранішніках.

Нягледзячы на тое, што большасць бацькоў патрабуе арганізоўваць усю працу ў групах на рускай мове, супрацоўнікамі дзіцячых садоў вядзецца паслядоўная разнастайная работа па выхаванню ў дзяцей павагі і інтарэсу да роднай мовы.

Не можам не згадзіцца з Вамі, што колькасць беларускамоўных садоў і груп значна зменшылася, але зараз упраўленне адукацыі разам з раённымі аддзеламі адукацыі ўзяло курс на пашырэнне сеткі беларускамоўных дашкольных устаноў і груп і спадзяемся на поспех.

З павагай Намеснік начальніка упраўлення Р.В.Махнач

### Дзякуй, спадар Занько

У сядзібу ТБМ завітаў цікавы чалавек, спадар Андрэй Занько. Ён распавёў такую гісторыю, прысутнічаючы на конкурсе дзіцячай песні, які праводзіла асацыяцыя "Спорт і мастацтва", ў якасці сябра журы, ён запытаўся, чаму нашы дзеці спяваюць толькі старыя савецкія, рускамоўныя песні. Яму адказалі, што няма іншай метадычнай літаратуры.

Тады сп. Андрэй Занько пры дапамозе Міністэрства адукацыі і асацыяцыі дзяцей-сірот "Спорт і мастацтва" выдаў зборнік песень для дзяцей "Ліска" накладам 150 асобнікаў.

У ТБМ-е мы параіліся і вырашылі даслаць па асобніку зборніка, разам з суправаджальным лістом на адрас 30-ці беларускіх садкоў, хоць яны такімі і з'яўляюцца ўмоўна. Нажаль адзіным, сапраўды беларускім садком, які мы ведаем, з'яўляецца Д/с № 187.

Дзякуючы спадару Андрэю Занько, сотні беларускіх дзяцей будуць мець магчымасць праз беларускія песні далучыцца да роднай мовы.

*Алесь Гурыновіч.*

## З ТБМ у 2000 год

У сядзібе ТБМ на Румянцава,13 можна набыць альбо замовіць каляндарыкі на 2000 год, прысвечаныя 10-годдзю ТБМ. Цана 30 000 рублёў.




У адну з мінулых нядзель, у Менскім філіяле музея М.Багдановіча "Беларуская хатка" адбылася сустрэча з адным з супрацоўнікаў, вядомым беларускім бардам Эдуардам Акулiным.

Перапоўненая зала музея сведчыла, што імпрэза абяцае быць цікавай. І спадзяванні былі цалкам спраўджаныя. Бард выконваў перад прысутнымі свае лепшыя песні, была паказана сапраўдная батлейка, а таксама адбылася цікавая размова.

Шкада толькі, што такія цікавыя імпрэзы, якія адбываюцца дарэчы ня рэдка не паказваюцца па тэлебачанню і нажаль застаюцца для невялікага кола беларусаў.

*Алесь Гурыновіч.*

# Моўныя зігзагі

Амаль пяць гадоў прайшло з таго часу, як тады яшчэ малады прэзідэнт А.Лукашэнка на сесіі Гомельскага гарсавета прамовіў сваё знакамітае: "Беларуская мова – бедная мова. У свеце існуюць толькі дзве вялікія мовы – гэта расейская і ангельская". Трэба сказаць, што многія грамадзяне ўспрынялі гэтыя словы, як і належыць – гэта абраза беларускай мовы. Іншыя – як загад дзейнічаць.

Лідскае прадпрыемства "Lidapischshe-concentraty", што азначае "Лідахарчканцэнтраты", выпускае геркулес. Пачак аформлены на дзвюх мовах – расейскай і ангельскай. Рацыя ёсць, бо вядома, што ангельцы, бы тыя коні, любяць авёс, праўда ў выглядзе шматкоў.

Я жыва ўяўляю, як у сябе на кухні ангелец учытваецца ў "Preparation" (спосаб прыгатавання), які змешчаны на гэтай, такой нам знаёмай, памятай пачцы з выявай расейскіх хахламскіх лыжак.

Ці вось запалкі Барысаўскай фабрыкі. На адным баку каробачкі напісана па-ангельску "Belmatch", што значыць беларуская запалка, на другім усё па-расейску. Шкадую ангельцаў. Мая маці, ад прыроды не злая, калі бярэцца распальваць пліту, многа чаго кажа нядобрага і пра самі запалкі і пра тых, хто іх вырабляе. Асаблівасць іх такая: запалка спачатку шыпіць, як бы думаючы ці запаліцца, ці не, а пасля гасне. Але з трох адна запальваецца.

Калі вы думаеце, што цытаванае вышэй выказванне А.Лукашэнкі ўспрынялі толькі на прадпрыемствах і ў дзяржаўных установах, то памыляецеся. Вось інтэрнэтаўскі сайт дэмакратычнай арганізацыі "Хартыя-97". Хочаш чытай яго па-расейску, хочаш – па-ангельску. Беларускага варыянта, як і на сайце кіраўніка краіны, няма. Што замінае "Хартыі-97" стварыць беларускі варыянт? Нічога, акрамя таго, што ў хартыстаў, як і ў стваральнікаў сайта кіраўніка дзяржавы, бракуе элементарнай павагі да беларускай мовы.

Увогуле, пакінем у спакоі гэтую ангельскую мову. Тым больш, што пакінуў выказвацца пра яе і А. Лукашэнка. затое напрыканцы мінулага года, выступаючы ў Акадэміі навук, ён сказаў: "Нас нередко упрекают за "расейскую мову". Ну какая же "расейская"? Чего мы отказываемся от того, что мы создавали все эти годы советской власти? Ведь чисто русский язык отличается от того, на котором мы говорим. Кто-то, знаете, издевается, вот вам "трасянка" и так далее. Неважно, может быть, и "трасянка". Но это мы создали этот язык. На базе русского языка. Почему от него сегодня должны отказаться?"

Пасля гэтых слоў не толькі перасталі адмаўляцца, апроста сталі актыўна ўжываць і, што тут казаць, "тварыць" трасянку. А раней жа нават у атачэнні кіраўніка дзяржавы былі непрыхільныя выказванні. Вось што гаварыў у 1996 годзе Уладзімір Плецюхоў, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, навуцы і НТП: "...экспромтам гаварыць па-беларуску пакуль-што не магу. Трасянкі ж цярпець не магу".

Хай цяпер так скажа!

Па маіх назіраннях першай выявіла ініцыятыву свядомага ўжывання трасянкі радыёстанцыя "БіЭй". Тут на трасянцы яшчэ летам пачала рыхтавацца адмысловая перадача "Па заяўках слухачоў". Як на мой густ, на густ маіх сяброў і знаёмых – перадача зняважлівая, бо ў ёй нішчыцца, калечыцца, як беларуская, так і расейская мовы. Але што зробіш, відаць у яе аўтараў такі ўзровень культуры.

Услед за "БіЭй" ствараць такую "навамову" узяліся масы. Чаго варты наступны ўнёсак у развіццё трасянкі, які я ўбачыў у вітрыне магазіна ў Барысаве, "Щоткі, рашчоскі".

Разам з занядбаннем беларускай мовы расце выкарыстанне ўкраінскай мовы ў памежных з Украінай абласцях. У Пінску выпускаюцца запалкі. А на каробачцы пішуць па-ўкраінску: "Сірнікі. Колективне об'єднання "Пінскдрев". Беларускага надпісу няма. У Мазыры на тутэйшым ААт "Мазырсоль" вырабляюць соль. Апошнім часам і тут сталі ігнараваць беларускую мову. Пішуць на "великом и могучем", і па-ўкраінску "Сіль кам'янна харчова крупна. Гатунок вищий. Помел № 1".

Такая дзяржаўная палітыка прывяла да таго, што некаторыя насельнікі Беларусі пачынаюць ўспрымаць беларускую мову, як замежную, або мову нацменшасці. Ніна Палуцкая з Гродна піша ў "Белорусской Деловой Газете" ад 16 жніўня: "К сожалению, остается проблема обучения на белорусском языке и других языках национальных меньшинств"! Начальнік аддзела кадраў Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта выдае "Уведомления к свидетельству...", дзе пішацца, што чалавек "...закончил в июне 1999 года Минский государственный лингвистический университет по специальности Современные иностранные языки (белорусский язык и литература)..."!

І апошні штрых ў гэтым маім невясёлым моўным допісе. Вядомы лідэр апазіцыі Станіслаў Багданкевіч, адказваючы ў нумары ад 16 жніўня "Белорусской газете" на пытанне карэспандэнта аб тым, чаму дэмакраты не могуць згуртавацца, не знайшоў нічога іншага, каб прычынай разнагалоссяў абвясціць адносіны да беларускай мовы: "Мы за то, чтобы никто не навязывал русскоязычному большинству переход на белорусскую мову. Тем более, при помощи прямого принуждения. К сожалению, абсолютное большинство говорит на русском языке. Но мы считаем, что ничего страшного в этом нет. Потому что очень много наций сформировалось на базе государственности. Сначала государство, а потом нация. Белорусский язык надо поддержать финансово, а не противопоставлять его языку русскому".

Хочацца спытацца ў расейскамоўнага дэмакрата Багданкевіча, хто навязвае яму беларускую мову "при помощи прямого принуждения"? Няўжо Вы не бачыце, што ў гарадах Беларусі, а цяпер ужо і ў вёсках хутка не застанецца ніводнай беларускай школы, што ідзе інтэнсіўная русіфікацыя сродкаў інфармацыі, афармлення гарадоў і вёсак, амаль поўнасцю выкінута беларуская мова з ужытку ў дзяржаўных установах? Калі Вы думаеце, што атрымаеце палітычныя дзівідэнты пінаючы тых, каму баліць за русіфікацыю Беларусі, то моцна памыляецеся. Нават чыноўнікі, блізкія Лукашэнку, гэта зразумелі. Пачытайце выказванні Падгайнага, Пашкевіча. Кажуць, нават Замяталін недзе выказаўся за "бережное отношение" да беларускай мовы!

Адзін мой знаёмы казаў: "Адносіны да беларускай мовы – найлепшы тэст для вызначэння вартасці чалавека". Здаецца, многія палітыкі не вытрымліваюць яго.

*Палсцюк Валеры.*

**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічных навук, прафесар, намеснік старшыні Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

Працяг

*(Працяг у наступным нумары).*

***Рабунак, рабаванне і грабеж.*** Слова ***грабеж*** утварылася ад ***грабіць*** з выкарыстаннем суфікса ***–еж (граб-еж).*** Дый само ўтваральнае слова ***грабіць*** мае ў беларускай мове значэнне *'грабіць – збіраць, зграбаць у кучу граблямі'.* Відаць, таму яго не фіксуе "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Менск, 1926). Дый у 5-томавым ТСБМ гэтае слова падаецца як сінонім да ***рабаваць*** з выкарыстаннем твораў Леніна (без аўтара перакладу на беларускую мову) Т.2. Мн., 1978.С.73). дарэчы, як і ўсе вытворныя з гэтым коранем (пазычанні-калькі з расейскай мовы) ***грабеж, грабежнік, грабежніцкі, грабежніцтва.***

БРС-26 фіксуе: ***рабаваньне – грабительство, грабеж; рабаваць – грабить, разорять; рабованы- награбленный, рабоўнік – грабитель, рабоўны – грабительский, рабунак – грабеж*** (с.267). Першы акадэмічны слоўнік –РБС – 53 – падае два словы (пры перакладзе расейскіх з коранем ***-граб-) "Грабеж – грабеж, рабунак; грабитель – грабежнік, рабаўнік, грабительский – грабежніцкі, рабаўніцкі, грабительство – грабежніцтва, рабаўніцтва, грабить - грабіць, рабаваць"*** (с.102).

"Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года пад рэдакцыяй К.Крапівы пайшоў яшчэ далей да "зліцця моваў": слова ***рабаванне*** і ***рабунак*** ён кваліфікуе як застарэлыя, даючы прастор рас. ***грабеж.*** На с.773,774 чытаем: "Рабаванне ср. уст. Грабеж; Рабунак, -нку, м.уст. грабеж". Праўда, іншыя аднакаранёвыя словы – рабаваць (рас. грабить) рабаўнік (грабитель), рабаўніцкі (грабительский), рабаўніцтва (грабительство) пакуль да застарэлых словаў не залічваюцца. Двухтомавае яго перавыданне –Брс-88,89 – ужо здымае бірку "застарэлае" з лексемы ***рабаванне***, а ***рабунак*** застаецца з ранейшаю стылістычнаю кваліфікацыяй ("уст."). А вось ТСБМ (т.4.Мн.,1980.С.550) здымае яе і з гэтага слова: "Рабунак, м.Гвалтоўны захоп чужой маёмасці; грабеж". Тут бачым і новыя словы з коранем раб-: Рабаўнічы (тое, што і рабаўніцкі); рабаўніцтва кваліфікуецца як "тое, што і рабаванне" (Тамсама.С.546).

Перавыданні РБС-53 (другое –Рбс –82, трэцяе – РБС –91, чацвёртае РБС- 93, пятае РБС – 94, шостае – РБС–98) пры перакладзе рас. ***грабёж, грабить*** дый іншых падаюць па два беларускія адпаведнікі, ставячы на першым месцы супольнае з расейскім слова: "Грабить несов. грабіць, рабаваць; грабёж – грабеж, рабунак, рабаванне ды пад.".

***Укладанне ці сачыненне.*** У школьнай практыцы ўжо сталі выкарыстоўваць сваё слова ***пераказ,*** хоць працяглы час (і насуперак слоўнікам) яго месца займала пазычанне ***ізлажэнне*** (рас. ***изложение***). А вось другі від пісьмовай творчай працы і сёння мае небеларускае найменне – ***сачыненне*** (рас. ***сочинение***), якое парушае лексічную сістэму беларускай мовы: яно не мае сваіх каранёў у нашай мове, пра што сведчаць беларускія адэкваты гэтага расейскага слова. РБС – 82 і РБС – 93, РБС – 98 (Т.3.С.422) сведчаць: "Сочинение ср.1. (действие) складанне, складванне, стварэнне, пісанне; 2. (действие) выдумлянне, прыдумлянне, хлусня, ілганне; 3. (действие) злучэнне; 4. (литературное произведение) твор; собрание сочинений – збор твораў; философское сочинение – філасофскі твор; 5. (школьное упражнение) сачыненне; 6. грам. злучэнне; сочинение предложений – злучэнне сказаў".

Як бачым, гэтае ***сачыненне*** ("школьное упражнение") нічым не абумоўленае, яно пярэчыць усім астатнім значэнням беларускіх адэкватаў рас. сочинение. У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т.5.Кн.1.Мн.,1983.С.77) падаецца наступнае азначэнне гэтага слова: "Сачыненне, -ня н. Від пісьмовай школьнай работы, звязаны з выкладаннем сваіх думак на пэўную тэму", Падставовым словам (паняццем), як відаць, выступае выкладанне, таму натуральным найменнем павінна быць слова гэтага лексічнага гнязда – укладанне. Параўн. рас.: сочинение – то, что сочинено..." Або: "сочинять (составлять, слагать) складаць, складваць" (РБС – 93, Т.3.С.422). Педагагічны тэрмін укладанне выразна выяўляе існасць самога паняцця гэтага віду школьнай працы: укладанне вучнямі пісьмовай працы на пэўную тэму з выкладаннем сваіх думак, сваіх ведаў.

У суверэннай Беларусі адмовіліся ад чужога, нематываванага тэрміна ***ізлажэнне***. Надышоў час замацаваць і другую сваямоўную матываваную намінацыю – ***укладанне***. Бо менавіта з школьнае маўленчае практыкі ідзе ўсталяванне (ці разбурэнне) нормаў на ўсіх моўных ярусах. Так, побач з ***"сачыненне"*** ў перыядычным друку (і творах некаторых пісьменнікаў) бачым ***"сачыняць".***

Такім чынам, вучні пішуць пісьмовыя творчыя працы **пераказ** і ***укладанне*** (а не ***ізлажэнне*** і ***сачыненне***), яны пераказваюць прачытанае настаўнікам (апавяданне...) або выкладаюць свае думкі, веды на прапанаваную настаўнікам тэму.

***Ваяка, ваяўнік, ваяр, воін, войнік, ваяр, баец, жаўнер, салдат.*** Пашыраным раней было ў беларускай мове слова ***ваяка.*** Яго падае БРС-26 як адпаведнік рас. ***воин, вояка*** (с.58), а слова ***воін*** тут не фіксуецца. У беларускія слоўнікі яно трапіла з расейскае мовы. Пра гэта ўскосна сведчыць і РБС – 5, які падае: воин – воін, але ў складзе ўстойлівага спалучэння – толькі ваяка: один в поле не воин – адзін у полі не ваяка (с.67). Бачым тут і белар. ваяўнік як адэкват рас. воитель (уст). Менавіта ад яго ўтварыўся прыметнік ***ваяўнічы*** як адпаведнік рас. ***воинствующий*** – і прыслоўе ***ваяўніча – воинственно.***

Побач з ***ваяка*** слоўнікі фіксуюць аднакаранёвыя ***ваяр*** ( з суфі ***–яр***), ***войнік, ваец*** (ПРК(Б)С.С.80). У савецкі час стала выкарыстоўвацца ***баец*** (рас.< ***боец***). У сучаснай маўленчай практыцы і ***баяр*** (утварэнне на ўзор ***ваяр***). "Узровень жыцця ў Расеі і Беларусі павінен быць аднолькавы. І пачынаць Беларусь будзе з пенсіянераў, асабліва з былых ваяроў (Народная воля. 16.10.98.С.2). "Падчас ІІ сусветнай вайны, калі замест Чырвоная армія сталі выкарыстоўваць Савецкая армія, слова ***чырвонаармеец*** (рас. ***красноармеец***) замянілі на ***салдат.*** У беларускай мове натуральным ёсць слова ***жаўнер.***

Яго выкарыстоўвалі Я.Колас, К.Чорны, К. Крапіва, Гарэцкі, Ц.Гартны ды інш. БРС – 62 і яго двухтомавае перавыданне фіксуе ***жаўнер*** як застарэлае, адэкват рас. ***солдат,*** а тлумачальныя слоўнікі – толькі як *'салдат польскай арміі'.* Аднак гэтыя акрэсленні неапраўданыя. Яшчэ "Беларуска-расійскі слоўнік" М. Байкова і С.Некрашэвіча (Менск, 1926. С.101) засведчыў: "Жаўнер м. – солдат; жаўнерка ж. – солдатка; жаўнерскі – солдатский".

Сучасныя вайсковыя тэрміналагічныя даведнікі падаюць: "Воин – ваяр, воін, вой, баяр; воинский –вайсковы; солдат – жаўнер" (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі айсковы слоўнік. Менск; Белфранс, 1997.С.33,194).

Словы ***жаўнер, ваяр, ваяка*** шырока выкарыстоўваюцца ў нацыянальным друку суверэннай Беларусі (Гл.Генадзь Сагановіч. Невядомая вайна. – Мн.: Навука і тэхніка. 1995; Язэп Найдзюк. Іван Касяк. Беларусь учора і сяння. Папулярны нарыс з гісторыі Беларусі. – Мн.: Навука і тэхніка. 1993; Г.М. Сагановіч. Войска Вялікага Княства Літоўскага ў ХУІ – ХУІІ стст.: Мн., Навука і тэхніка, 1994). Ды інш.

*(Працяг у наступным нумары.)*





# Сястра мая Русалачка



Прэм'ерай "Сястра мая Русалачка" пачаў новы тэатральны сезон Дзяржаўны тэатр юнага гледача. Спектакль пастаўлены рэжысёрамЛюдмілай Разумоўскай па казцы Ханса Хрысціяна Андарсана і прызначаны не толькі для дзяцей, але і для дарослых гледачоў - паклоннікаў чыстых і светлых гісторый казачніка.

Музыку да спектакля напісаў кампазітар Уладзімір Кандрусевіч,танцы паставіў народны артыст Беларусі Уладзімір Іваноў. Цудоўнае афармленне і касцюмы створаны мастаком Ларысай Рулявой.

На здымку сцэна са спектакля. У ролі Русалачкі актрыса Ала Паплаўская.

Фота Мікалая Пятрова, БелТА.

## Шагал... Шагал...



Галоўны рэжысёр Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску Віталь Баркоўскі ажыццявіў прэм'еру спектакля "Шагал.. Шагал..." па п'есе Уладзіміра Драздова "Васількі Шагала". Сцэнаграфія Уладзіміра Матросава, касцюмы Святланы Макаранка, Музыка Аляксандра Крыштафовіча.

На здымку: сцэна са спектакля.

Фота Аляксандра Хітрова, БелТА.

# Вяртанне з нябыцця

Расійская асіміляцыя нашага Краю апошніх двух стагоддзяў, а таксама палітычнае перапісванне гісторыі апошняга часу, вылечванне другароднага, чыжога на першыя пазіцыі ва ўсіх сферах нашага жыцця прымусіла беларусаў запамятаваць слынныя асобы тутэйшай зямлі. Такі лёс напаткаў і Тэадора Нарбута, таленавітага інжынера-фартыфікатара, якому сярод сучаснiаў у гэтай галіне дзейнасці не было роўных, археолага і гісторыка, нумізмата і бібліяфіла, фальклярыста і літаратара.

Тэадор-Матэуш (Фёдар Яўхімавіч – Я.П.) Остык-Нарбут нарадзіўся 8 лістапада (28.10. па старому стылю) 1784 года ў маёнтку Шаўры Лідскага павета (цяпер Воранаўскі раён Гродзенскай вобласці) у сям'і адстаўнога паручніка гвардыі Яўхіма Остык-Нарбута і яго жонкі Ізабелы Наніевіч. Акрамя яго ў сям'і былі яшчэ два старэйшыя сыны Мар'ян (1762) і Ігнат (1768).

Першапачатковую адукацыю Тэадор атрымаў дома, затым працягваў вучобу ў Лідзе. З 1799 года па 1803 год навучаўся ў Віленскім універсітэце, які пад час яго паступлення меў назву Віленскай галоўнай школы. У гэтым жа годзе быў прыняты ў Пецярбургскі кадэцкі корпус, дзе рыхтавалі вайсковых інжынераў. Па заканчэнні корпуса атрымлівае званне кандуктара першага класа. Службовую кар'еру Норбут пачаў у інжынерным дэпартаменце ваеннага ведамства Расеі. У 1804 годзе быў запрошаны ў спецыяльную групу пад камандаваннем гідрографа Энтэльвейна, якая мела задачу – правесці гідратэхнічныя работы на Нёмане. Магчыма тут і адбылося першае знаёмства маладога інжынера фартыфікатара з самабытнымі жанрамі беларускага фальклору.

Надалей жыццё было насычана разнастайнымі падзеямі. У 1806- 1807 гадах Норбут удзельнічаў у руска-пруска-французкай кампаніі, а ўжо у 1808 – 1809-х руска-шведскай вайне. Напалеон марыў пра сусветнае валоданне і ў гэтыя гады ўся Еўропа сачыла за яго дзеяннямі. Расія таксама пачала рыхтавацца да вайны ды распачала шукаць месца для пабудовы шасці крэпасцей на абшарах сваіх заходніх уладанняў. Тэадор Нарбут у той час па загаду расейскага ваеннага міністра Барклая дэ Толі, якому непасрэдна падпарадкоўваўся вельмі многа ездзіў.

У 1810 годзе трапіў на берагі Дняпра і Беразіны, у раён паміж Магілёвам і Рагачовам. Дэталёва агледзеўшы мясцовасць, інжынер-фартыфікатар прапанаваў пабудаваць пад Бабруйскам крэпасць ды сам стварыў план будаўніцтва. Кіраўніком будаўніцтва стаў К. Аперман. Норбут кіраваў землянымі работамі. І ўжо тут ён сустрэўся з мясцовымі старажыламі ды стаў запісваць мясцовыя паданні і легенды. У паездках па краі яго суправаджаў лекар П.Генерт са Старога Быхава, які за доўгія часы працы цудоўна вывучаў гэтую мясцовасць ды абрады, а таксама тутэйшыя паданні і легенды. Ён шмат што здабытага ў тыя часы скарыстаў у сваёй будучай працы.

Пасля цяжкай кантузіі яшчэ ў баі ля крэпасці Або ў Нарбута пагаршаўся слых, перад вайною 1812 года ён страціў яго і вымушаны быў падаць у адстаўку. Надалей Тэадор стаў жыць у Шаўрах, займацца археалогіяй і даследаваць гісторыю ВКЛ.

У 1818 годзе выдае даследаванне "Пра курганы". Ён першы на Беларусі назваў курганы месцамі старажытных пахаванняў. Першыя звесткі пра курганы ды пахавальны абрад ён сабраў яшчэ на Магілёшчыне П.Генерт паказаў яму рукапісную хроніку ХІУ стагоддзя, з якой даследчык зрабіў паасобныя выпіскі, неабходныя для сваёй першай навуковай працы.

Норбут вёў няшматлікія раскопкі на радзіме, у Прыдняпроўі, на Гарадзеншчыне. Сярод іншага даследаваў Лідскі замак.

Бадай, што самай значнай працай з'яўляецца дзесяцітомная "Старажытная гісторыя літоўскага народа".

Каб падкрэсліць сваё апантаннае захапленне беларускім фальклорам у гэтым творы аўтар распрацаваў легендарны радавод Нарбутаў, апісваючы мінулае горада Ліды. Паводле гэтай легенды, у свой час вядомыя князі Шуйскія збеглі з Масковіі ў Вялікае княства Літоўскае, дзе сталі верай і праўдай служыць новай радзіме. Тое сапраўды гістарычны факт: у 1631 годзе ў Лідзе памерла княжна Ганна Шуйская. Дык вось нібыта ад яе сына Францішка і пайшоў шматлікі і разгалінаваны род Нарбутаў.

Існуе яшчэ адно паданне, якое прыведзена ў трэцім томе **"Жывапісная Расія"** (магчыма яна была расказана Тодарам Яўхімавічам А. Кіркору – аўтару большасці артыкулаў вышэй згаданай кнігі). Згодна яе род Нарбутаў вельмі старажытны. Ён разам з Радзівіламі і Остыкамі цягнуцца ажно да вярхоўнага вяшчуна (крыве – крывейтэ) Ліздэйкі, які быццам бы быў сынам вялікага князя Нарымонта.

Працы Т.Нарбута прысвечаныя міфалогіі і фальклёру, былі высока ацэнены сучаснікамі. Да іх часта звярталіся беларускія, польскія і літоўскія навукоўцы. Дзякуючы намаганням М.Ермаловіча яго імя ў апошні час набыло новае гучанне.

Плённая праца навукоўца ў даследаванні гісторыі свайго краю, вывучэнне міфалогіі, фальклярыстыкі, этнаграфіі беларускага народа, а таксама яго мова, пісьменніцтва мела самыя непасдзяваныя вынікі.

Прыкладам яго сыны Людзвік і Балеслаў удзельнічалі ў вызвольным паўстанні 1853 года. За гэта яго старога бацьку выслалі ў Вільню пад нагляд паліцыі. Там жа Тэадор Нарбут у 1864 годзе памёр.

Пэўна прыйдзе час і імя Тодара Нарбута зойме пачэснае месца ў нашай гісторыі.

*Язэп Палубятка*

### Памяці Анатоля Іверса

Памёр старэйшы беларускі паэт, сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў Анатоль Іверс (Іван Дарафеевіч Міско).

Нарадзіўся ён 15.5.1912 года ў вёсцы Чамяры Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці ў сялянскай сям'і. За актыўны удзел у вызвольным руху на тэрыторыі Заходняй Беларусі быў выключаны з Вільнюскай (1928 г.), Клецкай (1929 г.) і Навагрудскай (1931 г.) гімназіі. У свой час працаваў літработнікам у Слонімскай раённай газеце "Вольная праца". У гады вайны удзельнік падпольнага антыфашыскага руху партызан. Вельмі шчыры, сумленны, таленавіты чалавек. Пражыў доўгае, але нялёгкае жыццё. Калі знаходзіў вольную хвіліну – пісаў вершы. Друкаваў з 1933 года. У 1939 годзе ў Вільні выйшаў першы зборнік "Песні на загонах". У 1970 годзе надрукаваў зборнік паэзіі "З пройдзеных дарог". Анатоль Іверс любіў Беларусь і свой народ. Ён радаваўся, калі дзяржава стала незалежнай і перажываў, калі знішчаліся нацыянальныя сімвалы і ганьбавалася родная мова.

*Язэп Палубятка.*

# 2 лістапада было

130 гадоў са дня нараджэння Іосіф Іосіфавіча Стаброўскага.

Гэты чалавек пражыў 99 гадоў; доўгае, але цяжкае жыццё. Яго захапленне і дзейнасць можна ахарактарызаваць, бадай, наступнымі словамі: археолаг, краязнаўца, гісторык, вынаходца. Ён заснавальнік аднаго са старэйшых у рэспубліцы Слонімскага гісторыка-краязнаўчага музея.

Іосіф Стаброўскі нарадзіўся ў 1869 годзе ў Слоніме ў сям'і капітана Мурманскага пяхотнага палка, які 1854-1855 гадах удзельнічаў у абароне Севастопаля. Адукацыю набываў у Полацкім кадэцкім корпусе. Пасля яго заканчэння вучыўся ў Маскоўскім археалагічным інстытуце ды вышэйшых археалагічных курсах пры Самарскім універсітэце. Нягледзячы на тое, што ён звязаў сваё жыццё з вайсковай службай, навука ў гэтага чалавека ішла побач. У свой час Іосіф Стаброўскі становіцца членам-карэспандэнтам віленскага аддзялення археалагічнага таварыства ды членам Яраслаўскага археалагічнага аддзялення. Разам з тым знаходзіць час і на вынаходніцкую працу. У свой час знайшлі прымяненні асабліва такія рэчы, якія прыдумаў наш зямляк, як шрапнель і тэлефон яго канструкцыі.

І.Стаброўскі ўдзельнічаў у першай сусветнай вайне ў чыне палкоўніка. Пасля 1917 года служыў Чырвонай Арміі, якую пакідае і вяртаецца на радзіму ў 1921 годзе. Застаецца толькі гадаць якія прычыны прымусілі прафесійнага вайскоўца пакінуць службу, бо да канца сваіх дзён, як распавядаюць блізкія яму людзі, не здымаў шынеля. Наступную палову свайго жыцця ён аддае вывучэнню і даследаванню гісторыі роднага краю. У гэты час Стаброўскі збірае ўсё, што, на яго погляд уяўляе гістарычную каштоўнасць. Сярод іншага была сабрана багатая калекцыя крамянёвых і каменных вырабаў часоў мезаліту і неаліту галава старажытнаславянскага ідала, аўтографы Карамзіна, Дзяржавіна, Льва Талстога, два пісьма Пушкіна да Наталлі Ганчаровай, гістарычныя рукапісы ХУІ-ХУІІ стагоддзя, Статут Вялікага княства Літоўскага, рэдагаваны Львом Сапегам. Аб настойлівасці Іосіфа Іосіфавіча сведчыць такі факт. Аднойчы вяртаючыся дамоў, ён стаў сведкам падзення метэарыта ля адной з вёсак на Слонімшчыне. Амаль паўстагоддзя працягваліся пошукі, але нябесны камень усё ж быў знойдзены.

У 1924 годзе І.Стаброўскі арганізаваў выставу старадаўніх дакументаў і кніг. Яе экспанаты як і калекцыя вырабаў каменнага веку леглі ў аснову гістарычна-краязнаўчага музея, які адкрыўся ў верасні 1929 года. Праз дзесяць гадоў той музей перайшоў на дзяржаўнае утрыманне. Экспазіцыя яго пастаянна папаўнялася. У гады апошняй вайны гэты сталага веку чалавек прыклаў вялікія намаганні, каб уратаваць значную частку экспанатаў.

Стаброўскі быў не толькі археолагам ды краязнаўцам, але і гісторыкам. Ім даследавана 150 курганоў на Гродзеншчыне, напісаны і надрукаваны дзесяткі артыкулаў па краязнаўству і гісторыі.

Памёр у 1968 годзе.

*Язэп Палубятка*

# 2 Лістапада было...

90 гадоў са дня нараджэння Максіма Лужаніна (Аляксандра Амвросьевіча Каратай). Ён нарадзіўся 2.11.1909 года ў вёсцы Прусы Салігорскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і.

Яго біяграфія шмат у чым падобна на жыццяпіс творчых людзей часоў савецкай улады. Скончыў Мінскі белпедтэхнікум, затым навучаўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні БДУ. Друкавацца пачаў у 1925 годзе. У 1928 годзе выдаў першы зборнік вершаў "Крокі". На працягу творчага шляху іх колькасць пераваліла за дзесятак. У свой час М.Лужанін быў сябрам літаратурнай арганізацыі "Маладняк", затым "Узвышша". У 1930 – 1931 гадах працаваў у рэдакцыі часопіс "Узвышша". Потым была праца на Беларускім радыё. А з 1935 года да да самога пачатку вайны знаходзіўся на выдавецкай рабоце ў Маскве. Не мінула і ваеннае ліхалецце. Пасля заканчэння Падольскага ваеннага вучылішча ў 1942 годзе ўдзельнічаў у баях пад Сталінградам. Пасля дэмабілізацыі праца ў розных рэдакцыях ды Акадэміі навук БССР. За сваю працу атрымлівае ордэны і медалі. У 1969 годзе прысвоена званне заслужаны дзеяч Мастацтваў БССР.

Акрамя паэзіі Лужанін піша прозу ды крытыку. З пад яго пяра выходзяць кнігі прозы "Колас расказвае пра сябе", "Дванаццаць вячорных вогнішчаў", "Рэпартаж з рубцом на сэрцы" і іншыя.

Выступае як перакладчык у асноўным гэта творы расійскіх аўтараў. Перакладае таксама творы з украінскай і польскай мовы.

У 1964 годзе за кнігу "Колас расказвае пра сябе" Максіму Лужаніну была прысвоена Літаратурная прэмія імя Якуба Коласа.

*Язэп Палубятка.*





# Школьныя "замарочкі"

У першы дзень новага навучальнага году адміністрацыя Слуцкага гарадскога парку задумала парадаваць школьнікаў малодшых класаў забаўляльнай праграмай і карыстаннем атракцыёнамі па зніжаных на 25% цэнах. А каб аб задумцы ведалі ўсе, напрыканцы 1 верасня ля ўваходных дзвярэй усіх школ былі расклеены аддрукаваныя на расейскай мове буйным шрыфтам абвесткі пад назвай "Школьные заморочки", з указаннем часу пачатку гульняў і нумароў праграмы. Прызнацца, на мяне слова "заморочкі" зрабіла ўдручальнае ўражанне: адкуль такія дзівосныя задумкі далёка не "нашанскага" паходжання? Пастаяў каля ўвахадных дзвярэй 6-й сярэдняй школы, дзе таксама вісела абвестка, каб паназіраць, як зрэагуюць праходзячыя міма бацькі і настаўнікі на гэтую "замарочку". Некаторыя прыпыняліся на сякунду другую і ішлі далей, не выявіўшы ніякага здзіўлення на твары – быццам так і трэба! Перакананы: ніхто з гарадскіх настаўнікаў не пазваніў дырэктару гарпарку, каб той вытлумачыў сэнс загадкавага слова. На мой тэлефонны званок нехта з работнікаў парку адказаў, што ён сам украінец і ў яго на радзіме ў гэтае слова ўкладваюць такія паняцці, як гульні, ігрышчы, спаборніцтвы ва ўменні смяшыць людзей. Вось, маўляў, і рашылі назваць свята першага званка "заморочками".

Але ж Слуцк – не украінскі горад, пераважная большаць жыхароў тут – беларусы. Толькі хто з гэтым сёння лічыцца ў нас! Ніхто з работнікаў парка, беларусаў, не запярэчыў, не падказаў, што можна ў беларускай мове падшукаць болей трапныя словы, напрыклад, "пагулянкі", чым "ігрышчы".

На жаль, падобныя "замарочкі" пачаліся ў горадзе яшчэ да першага верасня, на жнівеньскіх настаўніцкіх нарадах, на якіх прысутнічалі дэлегаты ад кожнай школы. Са справаздачным дакладам на гарадской выступіў загадчык аддзела адукацыі гарвыканкама М. У. Марачкоўскі. На расейскай мове. таму, напэўна раўняючыся па "начальству", і ўсе выступоўцы ў спрэчкаў гаварылі з трыбуны толькі па-расейску. Калі б у зале Дома культуры, дзе праходзіла нарада, сядзеў настаўнік з расейскай глыбінкі, ён, напэўна ўсклікнуў бы, а хутчэй падумаў: "Так что же у вас, братья-белорусы, осталось своего, белорусского! Я не ожидал услышать хотя бы одно словце ваше!" Больш таго: ніхто з выступоўцаў нават словам не абмовіўся аб тым, як увачавідкі знікаюць бела-рускамоўныя класы, яны засталіся пакуль у пяці школах.

Аб чым жа гаварылася з трыбуны? Аб пашырэнні варыентнага навучання, удасканаленні ўзроўню профільнай дыферэнцыяцыі вучняў, рэфармаванні фізічнага выхавання, стане здароўя дзяцей. Што ж, праблемы слушныя і ніхто не супраць іх. Але ж варта было задумацца выступоўцам і над тым, што з заняпадам роднай мовы, гвалтоўным выцясненнем яе са свядомасці людзей, асабліва моладзі, мы страцім статус нацыі і ператворымся ў насельніцтва, краіну манкрутаў.

Мне стала вядома, што сёлета ў падрыхтоўчыя класы у 13 школ горада прыйшло 950 вучняў, з іх 138 – у 12-ю школу (там дырэктарам працуе сібірак А. А. Самойлаў) яны будуць займацца ў сямі беларускамоўных класах. Астатнія 762 – у расейскамоўных класах, а значыць і далей, да 11-га класа, роднае слова для іх будзе толькі як "прадмет", нароўні з ангельскай ці нямецкай мовамі. Дарэчы, у 12-й школе. Як зазначыў пры сустрэчы Анатоль Антонавіч, у старэйшых класах толькі фізіка, хімія , матэматыка і ўрокі вылічальнай тэхнікі праводзяцца па расейскамоўных падручніках, усе астатнія "дысцыпліны" – толькі па беларускіх. На роднай мове вядуцца заняткі і ў малодшых класах. Тым не меньш ніхто з дэлегатаў нарады не палічыў патрэбным сказаць пахвальнае слова дырэктару і педагагічнаму калектыву гэтай школы. Магчыма, дэлегаты ад яе палічыліся за лепшае адмаўчаца, а іх калегі з іншых школ пабаяліся "высоўвацца".

Сёлета ў школы горада прыйшло 20 маладых педагогаў, некаторыя з іх прысутнічалі на нарадзе. З якімі думкамі і настроямі пакідалі яны залу, не пачуўшы з трыбуны ніводнага роднага слова? Няўжо, як і сотні, тысячы іх папярэднікаў, будуць і яны паступова падладжвацца да ўвогуле абруселай настаўніцкай "грамады"?

Больш абнадзейвальным быў пачатак раённай настаўніцкай нарады, што праходзіла ў Казловіцкім сельскім Доме культуры. Яе адкрыў уступным словам першы намеснік старшыні райвыканкама П. Б. Даўгучыц – на добрай беларускай мове, прадставіў дэлегатам напрыканцы прыняўшага справы новага загадчыка аддзела адукацыі І. А. Дзермана, які да гэтага працаваў шмат гадоў дырэктарам Танежыцкай сярэдняй школы. У ёй з пачатку 90-х гадоў і па сённяшні дзень уся дакументацыя, урокі вядуцца толькі на беларускай мове, на ей напісана і ўнутрышкольная тапаніміка. На жаль, справаздачны даклад Іван Антонавіч не паспеў падрыхтаваць – яго зрабіла першы намеснік загадчыка аддзела З.М.Міроненка... па-расейску. Напэўна, сядзеўшыя ў зале педагогі чакалі, што з "падачы" намесніка старшыні райвыканкама яна не захоча буць "расейкай". Дарэмна! Не дзіва, што з дзевяці выступіўшых у спрэчках дэлегатаў толькі два ці тры размаўлялі на роднай мове, хоць прыхільнікаў яе ў асяродку сельскіх настаўнікаў намнога больш, чым у горадзе, дзе па за школай беларускай мовай карыстаецца мала хто з іх. У мяне шмат знаёмых настаўнікаў сярод пенсіянераў, людзей сталага ўзросту. Але пры сустрэчы на вуліцы ці ў магазіне, Доме культуры размаўляюць "па-свойску", на матчынай мове, магу з трыма ці чатырма. Нярэдка ў паліклініцы, дамах адпачынку, санаторыях іх работнікі задаюць мне на дзіва аднолькавае пытанне: "Вы наверно учитель, что разговариваете хорошо по -беларусску? " Часцей за ўсё адказваю, што перш на перш я – беларус, люблю сваю мову, а прафесія да ўсяго і абавязвае ведаць яе. Заадно падкрэсліваю, што якраз настаўнікі ў большасці сваёй за сценамі школы забываюць родную мову. Так што, калі, крый Божа, Беларусь увойдзе ў склад Расейскай Федэрацыі, як пасля трэццяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе, расейскаму прэзідэнту не давядзецца, як цару пасля задушэння паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, прыслаць на Беларусь дзеля абрусення дзяцей у школах 1600 настаўнікаў – такіх і на месцы знойдзецца нямала. Праўду пісаў нядаўна на старонках газеты "Народная воля" прафесар-мовавед Леанід Лыч: "Нішто так не знясільвае, не збядняе нацыянальны патэнцыял народ, як пазбаўленне сацыяльных правоў яго. роднага слова". Менавіта беларуская мова, хоць па Канстытуцыі і лічыцца дзяржаўнай, іх якраз і не мае.

*Мікола Кутнявецкі, г.Слуцк.*

# Як Слова наша адгукнецца...

Вялікая таямніца – слова. Тым больш – слова настаўніка. Чаму яно абуджае нешта ў нашай душы, у нашай свядомасці? Чаму мы праносім гэтае слова праз усё жыццё?

Не ведаю, ці ёсць адказ на гэтае пытанне, але ў маім жыцці былі такія настаўнікі. Сёння мне хацелася б узгадаць тых, што вучылі мяне беражліва, уважліва ступаць –хадзіць па нашай зямлі, пільна ўглядацца ў яе гісторыю, бачыць незвычайнае ў самым звычайным, будзённым.

Вучылася я ў пасляваенныя гады ў Пінску, у багатай традыцыямі школе, гісторыя якой пачалася аж у 1858 г. і якая выправіла ў свет за 140 год свайго існавання шмат вядомых асоб.

Кароткі час выкладаў у нас маляванне Лазіцкі Аляксандр Іванавіч, былы вучань нашай школы. Выпускнік Акадэміі выяўленчага мастацтва і музыкі ў Кракаве па класе жывапісу. Аднойчы з нейкай нагоды ён намаляваў на дошцы план нашага старога Пінска, растлумачыўшы, чаму вуліцы ідуць "праменчыкамі" ад цэнтральнай плошчы і гэта дало падставу краязнаўцам 19 ст. назыаць Пінск "Сонцам наваколля". Ён раскрыў сэнс назваў вуліц Равецкай, Завальнай, Замкавай, Брэсцкай... Распавёў пра палац Бутрымовіча, дзе ў той час месціўся палац піянераў і школьнікаў... І ўсё. Але гэта было дастаткова, каб мы выйшлі пасля ўрока іншымі. Мы па- іншаму глядзелі на старадаўнія муры, на раку, якая захоўвала шмат таямніц гісторыі, а назвы вуліц гучалі, як музыка.

На жаль, многае нам дадзена спасцігнуць з вышыні пражытых гадоў, і толькі пазней я даведалася, што наш настаўнік быў шматгранным па талентах чалавекам, што, працуючы намеснікам дырэктара Пінскага краязнаўчага музея, а потым мастакомпастаноўшчыкам па касцюмах на студыі "Беларусьфільм", ён шмат зрабіў для адраджэння культуры Беларусі, рупліва збіраў звесткі пра гісторыю Пінска і ўрэшце пакінуў нам у спадчыну кнігу пра наш горад – "Пінск XУI стагоддзя".

Родную мову і літаратуру выкладала Марыя Залманаўна Сафро. Толькі зараз я пасапраўднаму зразумела, як складана было выкладацы ў той час родную мову. Трэцяя частка вучняў "вызвалялася" ад яе вывучэння. І які талент павінен быў мець педагог, каб тыя вучні, што заставаліся ў класе, нават у думках не мелі памкнення пакінуць урок. Так цікава было слухаць настаўніцу, так па-майстэрску звязвала яна вывучэнне кожнага твора з нашай гісторыяй і сучаснасцю.

Вядома ж, асабліва засталося ў памяці знаёмства з трылогіяй Якуба Коласа "На ростанях". "Поезд падыходзіў пад Пінск", - і мы, як зачараваныя, слухалі настаўніцу – пазнавалі, і не пазнавалі наш горад. Нам цікава было ведаць, як завецца цяпер Купецкая вуліца, па якіх вуліцах і завулках кіраваўся малады Лабановіч на патаемны сход. Адказы на гэтыя пытанні мы шукалі разам з настаўніцай. Хадзілі з ёй у Пінкавічы, у тую школу, дзе працаваў настаўнікам Якуб Колас, да будынка былога трэцяга прыходскага вучылішча, дзе таксама настаўнічаў пісьменнік і на якім у той час яшчэ не было мемарыяльнай дошкі. Мы з цікавасцю і павагай глядзелі на муры Кляштара – "зацятага грознасцю і панурай суровасцю непадкупнага вартаўніка аджытых рэлігійных традыцый".

Любілі віраванне рачнога рынка, дзе гандлявалі з чаўноў, чаек – душагубак, з "дубоў" сяляне навакольных вёсак, і, безумоўна, хтосьці з іх ведаў Коласа – настаўніка або нават быў яго вучнем.

Такія ўрокі былі своеасаблівым штуршком, яны выклікалі жаданне ведаць пра родны горад як мага больш. І гэтую любоў да яго, да нашай непаўторнай зямлі і яе гісторыі мы пранеслі праз усё жыццё.

А спачатку было слова настаўніка...

А.Пермінава, выпускніца 1954 г. СШ № 2 г.Пінска.

# Мне баліць за ўсю Беларусь

Колькасны рост Таварыства – адметная і добрая прыкмета нашага часу. Найбольш актывізавалася дзейнасць ТБМ, і пачалі павялічвацца шэрагі яго сяброў менавіта ў гэтыя восеньскія дні. Бясспрэчна, гэтаму паспрыяла перарэгістрацыя. Кампанія праводзілася з боку ўладных структур галосна і наўмысна доўга. Гэта і стала своеасаблівым штуршком для аб'яднання адраджэнцаў, набыцця імі ўпэўненасці ў справе пашырэння беларускамоўных асяродкаў. Большасць суполак, што ўтварыліся пасля шостага верасня, дзень, калі мы атрымалі Пасведчанне аб перарэгістрацыі, - маладзёвыя. Адна з іх пачала працаваць у Шаркаўшчыне, што на Віцебскай зямлі. Аб'ядналіся вучні старэйшых класаў раённага цэнтра, якія любяць родную мову, свой народ, ганарацца, што яны – беларусы. У планах працы гэтай суполкі вывучэнне гісторыі і культуры нашай краіны. А пачынаць яны будуць з роднай Прыдзвінскай зямлі. Падчас вакацыяў мяркуюцца вандроўкі. Спачатку ў межах свайго раёна, а затым – шырэй. Знаёмствы з матэрыялдьнай і духоўнай культурай, збор фальклорных песняў – толькі першыя крокі ў дзейнасці гэтай арганізацыі. "Жаваранкі", так называецца гэтае маладзёвае аб'яднанне, - не адзінокія. Тут, на Шаркаўшчынскай зямлі, даўно і плённа працуе суполка ТБМ пад кіраўніцтвам былой настаўніцы рускай мовы і літаратуры Ады Райчонак. Намаганнямі Ады Эльеўны і яе супольнікаў у вёсцы Германавічы створаны музей імя Язэпа Драздовіча. Яго філіял працуе ў саўгасе "Гарадзец". Дзякуючы гэтаму названыя вёскі сталі вядомымі на Беларусі асяродкамі культуры, якія маюць вялікую ролю ў выхаванні моладзі. Гэтая суполка дарослых і будзе апекавацца маладымі.

Разам са стварэннем новых структур ТБМ па Беларусі ідзе працэс іх аднаўлення. Адна з такіх структур – Чэрыкаўская гарадская суполка. Пакуль што ў ёй усяго чытыры сябры, чатыры легалізаваныя перакананыя беларусы на ўвесь раён. А колькі ж тых, хто спавядае ідэі Беларушчыны, і да сённяшняга часу не выявіў сябе, не заявіў пра сябе адкрыта?! Хочацца спадзявацца, што ў бліжэйшы час шэрагі прыхільнікаў Беларушчыны ў Чэрыкаве будуць пашырацца. Падставай для гэтага, на мой погляд, павінна стаць добра падрыхтаваная культурніцкая акцыя ў горадзе, арганізацыяй і правядзеннем якой займаліся непасрэдна сябры аднoўленай суполкі. Гэта была творчая сустрэча і мастацкая выстава двух жывапісцаў Аляксея і Ігара Марачкіных, бацькі і сына. Яны ж – сябры ТБМ. Дзякуючы ініцыятыве старшыні суполкі, кіраўніку раённага клуба творчай інтэлігенцыі "Натхненне" Станіслава Хахлова, якую падтрымала мясцовая ўлада, чэрыкаўцы ўпершыню сустрэліся са сваім земляком, мелі магчымасць пазнаёміцца з творчасцю двух мастакоў. Акрамя таго Аляксей Марачкін на сустрэчы чытаў вершы і дзённікавыя замалёўкі – плён сваёй літаратурнай працы.

Мне баліць за ўсю Беларусь. А пачынаецца гэты боль з двух рэгіёнаў – Шаркаўшчынскага і Чэрыкаўскага. Гэта наша Бацькаўшчына, мая і майго мужа. Як кажуць, ён – з усходняй, я – з заходняй роднай Беларусі. Нашыя рэгіёны самыя адсталыя ў эканамічным плане. Крыўдна чуць і бачыць гэта. І толькі сустрэчы з простымі людзьмі саграваюць сваім цяплом і шчырасцю. Незабыўныя хвіліны падаравалі нам чэрыкаўскія кабеты, калі мы слухалі ў іхнім выкананні невядомыя мне народныя песні. Забываешся нават, што ты ў небяспечнай для здароўя зоне. Крыўдна за тых сваіх землякоў, хто больш імкнецца да культуры суседняга народа, забываецца пры гэтым на свае карані, не задумваецца і не надае аніякага значэння, якой мовай карыстаецца. Асабліва моцна зрусіфікавана Чэрыкаўшчына. У раённым цэнтры – ніводнай беларускай школы. Колькі ж трэба працаваць тут руплівцам Беларушчыны, каб давесці да розуму людзей думку аб тым, што калі будзе мова, будзе і каўбаса.

Божа, ты падараваў нам незалежнасць. Дай нам, паслухмянаму і пакорліваму, прыгожаму і таленавітаму, працавітаму беларускаму народу свядомых уладароў, каб душу беларускую не загубілі. хОчацца пажадаць поспехаў нашым новым суполачкам, якія арганізаваліся дзеля барацьбы за душы людскія насуперак страху і наступствам на духоўную святыню народа – мову.

*Ірына Марачкіна, адказны сакратар ТБМ.*

# ЯК ЖА ЎСЁ-ТАКІ НАМ ЗВАЦЦА: "ТАВАРЫШАМІ" ЦІ "СПАДАРАМІ"?

Такая ўжо краіна наша Беларусь, што ў нас палітыкай становіцца сама мова, нават якое-небудзь спецыфічнае мовазнаўчае пытанне.

Вось і нядаўна пэўна кола слухачоў Беларускага радыё пусціла хвалю абурэння: чаму ў нашым радыёэфіры гучыць нацыяналістычнае, варожае, мала што не фашысцкае слова "спадар". Кіраўнік Беларускага радыё тав. Ядрынцаў як быццам зараз жа адрэагаваў, супакоіў разгневаную радыёаўдыторыю, што парадак ён навядзе і "спадар", "спадарства" болей не прагучыць на беларускай радыёхвалі. У эфіры над Беларуссю, такім чынам, запануе звыклае, чыстае слова "таварыш".

У звязку з гэтай, увогуле не самай адметнай прыгодай у нашай цяперашняй "буче, боевой и кипучей", узгадваем лакальны, у горадзе Полацку, канфлікт, які ўзнік гады чатыры назад з-за таго ж самага слова "спадар".

Была ў разгары кампанія па выбарах у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь 13-га склікання. Услед за сваім вельмі ж актыўным электаратам адзін з кандыдатаў у дэпутаты выказаў абурэнне, нават пагражаў падаць у суд, чаму ў мясцовай газеце яго абразілі – назвалі "спадаром". Журналістам з дапамогай настаўнікаў беларускай мовы давялося заняцца лінгвістычнымі пошукамі, бо ніхто ж не спадзяваўся, што вось так, неўспадзеўкі ўзнікне вымога апраўдвацца, чаму гаворыш і пішаш так, як гаварылі і пісалі на тваёй мове да цябе.

Да суда, праўда, не дайшло. Для кандыдата аказалася недастаткова гутаркі ў рэдакцыі, у школе. Слухаць і чуць іншых, трэба аддаць належнае, ён умеў. І для яго самога на тое-сёе адкрыліся вочы. Рады сёння сказаць, што ён ужо не той, якім быў, дакладней, якім мусіў, стараўся быць. Сёння ён разам з тымі, хто за Беларусь. Мы шчыра жадаем яму, колішняму апаненту, быць мужным і стойкім да канца, не сыходзіць з цярністай, але годнай сумленнага чалавека дарогі, на якую ўступіў.

І раз ужо дайшло да таго, што слолва "спадар" забараняецца на афіцыйным узроўні, выкрэсліваецца з мовы загадам чыноўніка, лічым немагчы-мым маўчаць, хочам сказаць сваё слова, падзяліцца хоць тымі досведамі, якімі былі ўзброіліся, рыхтуючыся да магчымага судовага разбору.

Гэта так: у Савецкім Саюзе не было інакшага звароту адзін да аднаго, як "таварыш". Усе пагалоўна былі таварышамі. Згодна з Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы слова "таварыш" значыць: "грамадзянін, чалавек у сацыялістычным грамадстве". Як узнёсла спявалася ў некалі папулярнай, прыгожай, што там грашыць, песні "Широка страна моя родная", пачатковыя ноты якой сталіся пазыўныя Маскоўскага радыё, а сама тая песня зрабілася ледзьве што не другім гімнам:

***Наше слово гордое "товарищ"***
***Нам дороже всех красивых слов.***

Адкуль жа яно ўзялося, гэтае слова? На якой такой глебе зарадзілася?

Недзе ў той самы час, пра які тут гаворка, у друку паявіліся публікацыі прпа гэтае слова. Мабыць, ці не ўпершыню за доўгія гады яго бытавання. Чамусьці раней такія звесткі не было прынята афішаваць. А "перабудова" і тут зняла заслону.

І ў нумары абласной газеты "Віцебскі рабочы" за 6 чэрвеня 1995 года з'явілася невялічкая нататка пад назовам "Товарищ, кто вы?" аўтарам яе быў старшы навуковы супрацоўнік Гарадзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея Ю.Шастак. Дык вось, слова "товарищ" / далей будзем цытаваць на мове арыгінала, у тую пару беларускі дагэтуль "Віцебскі рабочы" патроху пераходзіў на двухмоўе/ впервые в дошедших до нас рукописях употребил митрополит Киприян в послании псковскому духовенству. Значит, слово "товарищ" "по паспорту" шесть веков, но не исключено… и больше". Праваслаўнае духавенства, аказваецца, не само спарадзіла "товарища", а запазычыла ад цюрскамоўных, татарамангольскіх наездцаў, якія ў той час запанавалі над рускімі землямі.

У гэтым слове, паведамляецца далей у нататцы, "языковедыэтимологи вычленяют два тюрских элемента: известное нам "товар" (что означало "скот", "имущество") и "иш" или "ищ") ("друг", "спутник"), исходное значение этого составного слова можно определить как "соучасник в деле", "компаньон". Першымі таварышамі, іначай ска-заць, былі людзі, якія разам пасвілі жывёлу, затым дастаўлялі яе на торжышча, прадавалі, канешне ж, дзялілі барыш. Маглі самі і не пасвіць, куплялі "тавар" і перапрадавалі. Чы-таем далей: "Эти значения с различными нюансами сохранились в дальнейшем употреблении этого слова и в купеческой, ком-мерческой среде и в кругу боевых соратников…"

У нататцы даюцца прыклады бытавання слова "таварыш" у розных значэннях. І ў такім. У Т.Шаўчэнкі ёсць радкі: "Ой, наточу товарища, в голенище спрячу" (маецца на ўвазе, як няцяжка здагадацца, што гаворка ідзе пра нож). "Товарищем, - цытуем, - назывался разбойничий топор-засапожник".

Дададзім у гэты шэраг яшчэ прыклады. Чытаем у эпіграфе да аднаго раздзела ў "Капітанскай дачцы" А.Пушкіна:

***...товарищей у меня было четверо:***
***Как первый мой товарищ тёмная ночь,***
***А второй мой товарищ булатный нож,***
***А как третий товарищ, то мой добрый конь,***
***А четвёртый мой товарищ, то тугой лук...***

У гэтых радках, зразумела, трэба вырозніваць адметнасці паэтычнай вобразнасці. Але ж відавочна, што слова "таварыш" мае тут тое самае, першаснае сваё значэнне. Яно абазначае саўдзельніка, нават больш – прыслужніка, адданага, надзейнага, у якім можна быць упэўненым, як у сваіх апрабаваных прыладах – у нажы, у луку. У той справе, дзёрзкай, яўна крывавай, найлепш падыходзіць толькі таварыш. Ні "сябар" ("друг"), ні "пан" ("господин") тут яго не заменяць.

Просяцца на ўспамін славутыя словы з прамовы Тараса Бульбы, вядомыя са школьнай праграмы па рускай літаратуры: "Нет уз святее товарищества". Зноў жа трэба ўлічваць, пры якой нагодзе і ў якім сэнсе гэта сказана. Ідзе бітва запарожцаў з палякамі, патрэбна моцна баявая спайка між сваімі, адданасць справе незалежнасці, узаемавыручка, гатоўнасць душу пакласці за саратніка, за пабраціма.

Няцяжка зразумець, чым прывабіў зварот "таварыш" расейскіх бальшавікоў. У той самай нататцы Ю.Шастака чы-таем: "…почти сто лет назад слово "товарищ" стали употреблять российские социал-демократы, а по мере обострения классовой борьбы оно обрело символический, мировозренческий характер". Спачатку таварышамі былі толькі члены, сябры партыі, а калі на адной шостай сухазем'я запанавала дыктатура пралетарыяту, былі абвешчаны таварышамі і ўсе пагалоўна грамадзяне.

Сёння мы маем даволі поўныя досведы пра таварыскасць, якая існавала як у асяродку партыі, так і ў грамадстве. Былі таварышы і таварышы. Правадыры, лідэры, кіраўнічая "галоўка", была армія чыноўнікаў разнастайнага рангу, якая праводзіла ў жыццё праграму і кіраўнічыя дырэктывы, былі "колесики и винтики" – гэта нікім збоку не прыдумана, гэтак гаварылася ў самой партыі, былі ўдарнікі, стаханаўцы, якія змагаліся на палях, у шахтных забоях, за станкамі за выкананнем велічных, як зазвычай гістарычных прадвызначэнняў. Таварышы, якія былі наверсе, жылі амаль што як пры камунізме, карысталіся закрытымі размеркавальнікамі, ніжнія былі радыя пайцы хлеба, кавалку тканіны, атрыманым па чарзе. Вышэйшы мог раскрытыкаваць, пакараць сваёй уладай меншага, мог зняважыць – сярод таварышаў, звязаных адной арганізацыяй, жалезнай дысцыплінай, цэнтралізмам, гэта ў парадку рэчаў. Вядома, што многія таварышы паплаціліся за страту даверу нават жыццём.

Нельга сказаць, што слова "таварыш" выклікала ў кожнага савецкага чалавека нязменнае пачуццё гордасці. Гэта ж не выдуманае, гэта бытавала, выбівалася час ад часу у вузкім асяроддзі: "Тамбовский волк тебе товарищ!", "Які я табе тава-рыш – я з табой свіней не пасвіў".

Цяпер звернемся да слова "спадар".

Без тлумачэння ясна, што гэта ўсечаная форма слова "гаспадар". Не трэба, бадай, і далей тлумачыць. Гаспадар – гэта уладальнік гасподы, як некалі ў даўнія часы называлі дом, двор, маёнтак. Чалавек варты павагі, самастойны, грунтоўны. У Статуце Вялікага княства Літоўскага ад 1588 года самы высокі чын – кароль польскі і вялікі князь літоўскі – называецца не інакш, як гаспадаром: "… мы, господар, обецуем и шлюбуем…", "...мы, господар, шлюбуем никого не карати на заочное поволанье…" Далей знаходзім: "… а тот господар домовый никоторые трудности и шкоды понисить на мать…", "… А оный господар был бы до суду позван…" Гэта ўжо пра падданых найпершага гаспадара – пра магнатаў, пра іншых па сацыяльным статусе асоб. Усе – гаспа-дары.

На вялікі жаль, мы вельмі мала ведаем пра сваю гісторыю, пра Вялікае кня-ства Літоўскае, у якім фар-мавалася наша мова, пачы-налі складвацца нашы на-цыянальныя асаблівасці. Вяртаючыся сёння да сваёй мінуўшчыны, мы знаходзім вельмі часта адны прагалы, руіны, а што ацалела, з архіваў, помнікаў пісьмен-ства, расцярушана па чужых сховішчах, музеях. Але на-ват і з таго, што маем пад рукамі, што зрабілася да-ступным амаль кожнаму зацікаўленаму, можна па-цвердзіць, што ў беларусаў яшчэ ў час Вялікага княства Літоўскага побач са словам "гаспадар" было ва ўжытку і слова "спадар".

У "Баркулабаўскай хроніцы", летапісе за 1563-1608 гады, знаходзім такую жывую карцінку пра страшэнны голад на Беларусі (зазнала наша зямелька нягодаў ды няшчасця за сваю гісторыю): "… коли вже была весна в року 1602 наход людей множества почали мерли… А коли тот наход у ворот, албо в дому у кого стояли хлеба просили, у кого выпало: "Матухно, зезюлехно, утухно, паняшко, сподариня, солнце, месяц, звездухно, дай крошку хлеба". Звернем увагу на гэтыя словы: "У кого выпало". Прасілі хлеба не абавязкова ў магната, у багатага, прасілі, у каго выпала, у любога, у каго спадзяваліся знайсці спогадзь. "Спадарыняй" маглі звадь любую гаспадыню дома.

І яшчэ прыклад. У "Хрэстаматыі па гісторыі беларускай мовы", частка першая, 1961 год, змешчаны словы "Ліст да Абуховіча", ананімны ўзор старабеларускага эпісталярнага пісьменства. Датуецца ён дакладна: "Дня 6 Юля року 1655". Чытаем у самым канцы: "Да не гневайся, сподару". З дакумента ясна, што Абуховіч калі не роўны па статусе аўтару ліста, то ва ўсякім разе мала вышэйшы, што "спа-дар" – гэта не тытул, а форма звароту.

Ужо з гэтых прыкладаў, адшуканых, што называецца, на скорую руку, даволі, каб запярэчыць закідам, што слова "спадар" нібыта ўзялі на Беларусі калабаранты падчас нямецкай акупацыі. Яно не прыдумана і дзячамі БНР у 1918 годзе. Яно даўно паявілася на Беларусі. Яно сваё, роднае, ні ў каго не пазычанае. Слова "таварыш", як і іншыя цюрскамоўныя запазычанні, маглі трапіць у нашу мову хіба пасля падзелаў Польшчы і далучэння беларускіх земляў да Расійскай імперыі, а першы падзел адбыўся ў 1772 годзе.

Дык як хочам звацца? Якія мы цяпер таварышы адзін аднаму? Хіба назаве, напрыклад, Чыкін таварышам Пазняка? Наўрад ці назаве Калякіна, кіраўніка паралельнай Кампартыі. Проста немажліва, каб у адкрытым, дэмакратычным, плюралістычным грамадстве людзі не адрозніваліся поглядамі, прыхільнасцямі, верай. Не называем мы ўсіх без разбору калегамі, а чаму можам называць таварышамі? Гэтыя два словы аднаго шэрагу: ужываюцца ў пэўным карпарацыйным асяроддзі, у нейкім замкнутым, вузкім, спецыфічным коле людзей.

Звяртаючыся да суграмадзяніна са словам "спадар", мы падкрэсліваем яму сваю павагу, прызнанне ягонай асабістай годнасці, а разам з тым і прыналежнасці да адной Бацькаўшчыны.

Сумна, што ў нас, у беларусаў, няма нават свайго спадчыннага, адметнага этыкету. Мы і тут ходзім па чужы розум. Нашы суседзі ўжо патроху вяртаюцца да сваіх традыцыйных назоваў – "пан", "господин". На Беларусі яны таксама ў свой час ужываліся. Так ужо склалася гістарычна, што за імі для беларускага вуха чуюцца не вельмі прыемныя водгукі. Дык мы тады лепей будзем звацца таварышамі?

***Алена Каленік,***
***Герман Кірылаў,***
***гор. Полацк.***

# Няўжо беларуская навука – абыякавая, або нават варожая да беларускай мовы і беларускасці?!

Гэтае пытанне вельмі набалелае для кожнага свядомага беларуса і грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, сапраўды заклапочанага лёсам беларускай нацыі. Яно нясцерпным болем сардэчным праходзіла праз душу кожнага з нас, заўжды: калі (прабачце за гэтыя словы) можна сказаць па-халуйску выказваліся ранейшы і сучасны прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі (пакуль што не нацыянальнай у поўным сэнсе гэтага слова) і агітавалі за Саюз Беларусі з Расіяй, гэта значыць - за поўнае знікненне беларусаў у этнічных адносінах і размыванне толькі пачынаючай станавіцца беларускай нацыі; калі праводзіліся адпаведныя сесіі гэтай акадэміі і адпаведныя ўрачыстасці, на якіх не толькі не панавала беларуская мова, але не было хоць якога-небудзь яе гучання; калі родная мова беларускага народа выганялася прэч з акадэмічнай аспірантуры і навуковых выданняў; калі ў апраўданне гучала злачынная хлусня аб тым, што быццам бы беларускі народ сам выказаўся на рэферэндумах за сучасны стан беларускамоўнасці, хоці нідзе і ніколі перад беларусамі не ставілася пытанне аб нашай згодзе на знішчэнне роднай мовы і беларускай самастойнай дзяржаўнасці.

Мяне вельмі здзіўлялі адказы некаторых дырэктараў НДІ: а навошта тая мова народу ўсё роўна на якой мове размаўляць, бо яна не дае ні дабрабыту, ні грошай. З гэтых адказаў вынікала, што гэтыя людзі (можа некалі з нацяжкай стаўшыя акадэмікамі (некаторрыя спачатку дабіліся пасады, а ўжо потым выбілі званні), не разумеюць, навошт Бог стварыў розныя этнасы і наказаў праз этнічнанацыянальныя пачуцці берагчы тую розн[а]сць - як аснову існавання і развіцця ўсяго чалавецтва, яго самаўдасканалення.

Усё адзначанае прымусіла гарадскую раду Таварыства беларускай мовы г. Менска звярнуцца з адкрытым пісьмом да дырэктараў НДІ і іншых устаноў Акадэміі навук Беларусі, да кіраўнікоў праектных, праектна-вытворчых інстытутаў. Аналагічны зварот да кіраўніцтва ВНУ рэспублікі паказаў іх глыбокае разуменне нашай заклапочанасці. Толькі рэктарат БСГА даў фактычна зневажальны адказ. Зусім не адгукнуліся недзяржаўныя ВНУ. Гэтым самым яны паказалі, што служаць не этнічна-нацыянальным справам Беларусі, а грошам і амбіцыям сваіх кіраўнікоў.

Сучасны змест нашага звароту наступны.

Шаноўны (ая) дырэктар !

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны разам з прадстаўнікамі нацыянальнай свядомай грамадскасці сур'ёзна заклапочана станам беларускамоўнасці ў нашай краіне як аднаго з галоўных фактараў захавання і развіцця беларускага этнасу, стаўлення нацыі і захавання самастойнасці Беларускай дзяржавы. Усё больш рэальнай становіцца пагроза канчатковай асіміляцыі беларусаў з прычыны звужэння арэалу нашай культуры і мовы. Вельмі насцярожвае тое, што лідэрам у гэтым трагічным працэсе з'яўляецца наша сталіца Менск. Пацвярджэннем таму – хуткае скарачэнне беларускамоўнага навучання ў школах. Так, калі ў 1993-1994 навучальным годзе 58,6% першакласнікаў Менска прыйшлі ў беларускамоўныя класы, то ў 1997-1998 – ужо 7,3%, а ў 1998-1999 – 4,9%. У 11-х жа класах двухмільённай сталіцы з 13382 вучняў толькі 108 навучаюцца па-беларуску. І гэта ў горадзе, дзе пераважная колькасць жыхароў - беларусы і які павінны быць узорам этнічнага самазахавання і развіцця карэннага народа! Другога такога прыкладу сярод цывілізаваных краін сучаснасці не існуе.

Прычын такога жахлівага трагізму шмат. Сярод іх назавем найбольш відавочныя.

Толькі за час "невядомай вайны 1654 – 1667гг." самага "добрейшего человека славной русской души" цара Аляксея Міхайлавіча большая частка беларусаў была знішчана, а многія з тых, хто застаўся ў жывых, вывезены ў няволю. У выніку аказаўся моцна разбураным генефонд беларускага этнасу.

У 1836 годзе царскім указам было поўнасцю забаронена беларускамоўнае навучанне ў школах, і да 1915 г. ніводнае беларускае дзіцё не вучылася на роднай мове.

За савецкі перыяд у выніку палітычных рэпрэсій толькі на працягу 20-50-х гадоў камунабальшавізм знішчыў каля 600 тысяч найбольш адукаваных, гаспадарлівых і свядомых людзей Беларусі – мазгі і сумленне яе народа.

Пачынаючы з часоў захопу Беларусі Расеяй самая элітная частка беларусаў высмоктвалася спачатку Масковіяй, а потым СССР. А сюды для мацавання расейскіх і бальшавіцкіх парадкаў пасылаліся адпаведныя асобы.

Цяперашнія вярхоўныя ўлады Рэспублікі Беларусь карыстаюцца самымі непрыстойнымі прыёмамі, каб зрабіць беларускую мову зусім непатрэбнай у дзяржаве і грамадстве, зацята нацкоўваюць саміх беларусаў супраць сваёй роднай мовы.

Такія метады выкарыстоўваюцца, каб паказаць, што ў Беларусі практычна ўжо не існуе і сам беларускі этнас. Апошняе таму пацвярджэнне – толькі што праведзены перапіс насельніцтва, які з'яўляецца па сутнасці акцыяй, мэтанакіраванай супраць этнічных і дзяржаўных асноў беларускасці. Пра гэта сведчыць нават адно з пастаўленых у перапісных лістах пытанняў: "На каком языке вы обычно разговариваете дома?" Вынікі (загадзя вядомых) адказаў будуць выкарыстаны ўладамі, каб крычаць на ўвесь свет: "Праблем беларускай мовы не існуе, бо беларусы ўжо не карыстаюцца ёю. А раз няма беларускай мовы, то няма і беларускага этнасу".

У гэты лёсавызначальны для беларускага народа час нас вельмі здзіўляюць паводзіны Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, дакладней – яе кіраўніцтва, якое сваімі дагаджальніцкімі перад уладамі паводзінамі фактычна спрыяе знішчэнню беларускай мовы і саміх беларусаў як этнічнага супольніцтва. Аналагічнае стаўленне да беларускай мовы і большасці кіраўнікоў галіновых навукова-даследчых і праектных інстытутаў, навукова-вытворчых устаноў, якія падобным чынам спрыяюць знішчэнню ў нашым краі каранёў беларускасці.

У адпаведнасці з вышэйадзначаным просім Вас правільна зразумець прычыны нашай велізарнай заклапочанасці сучасным станам беларускай мовы на яе этнічнай тэрыторыі і адказаць на насупныя пытанні, каб ацаніць рэаліі яе функцыяніравання ў асяроддзі людзей творчай працы, расказаць пра гэта народу і планаваць мерапрыемствы па ўратаванні роднага слова карэннага насельніцтва краіны.

1.Ці згодны Вы з тым, што мэтанакіраванае з боку афіцыйных улад знішчэнне беларускай мовы як аднаго з галоўных фактараў этнічнай самабытнасці беларусаў з'яўляецца сусветным злачынствам? Пастаноўка дадзенага пытання выклікана тым, што этнасы як генетычна роднасныя еднасці людзей са сваёй сукупнай душой і мовай, іншымі самабытнасцямі створаны не выпадкова. А каб праз жыццёвае ўзаемадзеянне сваіх рознасцяў забяспечваць існаванне ўмоў для безупыннага самаўдасканалення ўсяго чалавецтва. Таму выпадзенне з ланцуга агульначалавечай супольнасці 12-мільённага звяна беларусаў абядніць яго магчымасці.

2. У адпаведнасці з адзначаным ці можна лічыць нармальным, калі кіраўніцтва Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі фактычна выкінула родную мову са свайго ўжытку? Нават на ўрачыстасці з нагоды 70-годдзя Акадэміі навук, што праводзілася 15 студзеня сёлета ў Вялікім тэатры оперы і балету з удзелам прэзідэнта Рэспублікі Беларсь А.Лукашэнкі (гл. "Звязду" ад 16.02.1999 г.), гучала выключна мова суседняга народа.

3. Ці можаце Вы уявіць штосьці падобнае, напрыклад, у сапраўды братняй нам Украіне ці суседніх Літве, Латвіі, Польшчы?

4. Ці можаце лічыць нашу Акадэмію навук сапраўды нацыянальнай? Такая фармулёўка пытання звязана з тым, што першаснай задачай любой сапраўды нацыянальнай акадэміі навук ва ўсім свеце з'яўляецца неабходнасць захавання і развіцця асноў нацыі як створанай на аснове тытульнага этнасу дзяржаўнай еднасці народа, аб'яднанага грамадскімі агульнасцямі жыццядзейнасці, самабытнай культурай, мовай і ладам жыцця. Кіраўніцтва ж Беларускай акадэміі навук падтрымлівае накірунак далучэння Беларусі да Расіі, г.зн. знішчэння асноў беларускай нацыі, якая яшчэ не ўсталявалася. А калі знікне нацыя, не будзе патрэбы і ў нацыянальнай АН.

5. Ці можа, на Вашу думку, узначальваць АН Беларусі чалавек, які негатыўна адносіцца да беларускасці наогул і да беларускай мовы ў асаблівасці?

6. Ці згодны Вы з тым, што на чале любой навукова-даследчай, навуковапраектнай, навукова-вытворчай установы павінны быць спецыяліст, у чалавечую сутнасць якога закладзена павага да асноў усяго беларускага, у т.л. да беларускай мовы?

7. Якая Ваша думка адносна таго, каб у нашай краіне беларуская мова была сапраўды вядучай унутрыдзяржаўнай (з абавязковым выкарыстаннем ва ўсіх відах навучальнага працэсу), расейская – рэгіянальнай (для зносін у СНД і славянскім свеце), эсперанта, лацінская або адна з вядучых сучасных моў (напр.ангельская) – сродкам міждзяржаўных зносін?

8. Ці можна лічыць нармальнымі безупынныя спасылкі не асабліва выніковых навукоўцаў і іншых аналагічнага роду дзейнасці прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, што, маўляў, выкарыстанне беларускай мовы не толькі звужае магчымасці прапаганды іх дасягненняў, але нават і шкодзіць у іх працы?

9. Калі так, то чаму тады пры выкарыстанні толькі рускай мовы ў АН БССР (а потым –РБ) даволі вялікай арміяй навукоўцаў ні адзін з іх не адзначаны Нобелеўскай прэміяй?

10. Як (станоўча ці адмоўна) суаднесці адзначаныя сцвярджэнні пра негатыўны беларускамоўны ўплыў на навуку з вядомай ісцінай, у адпаведнасці з якой Андэрсэн Ханс Крысціян (1805-1875гг.) здабыў сабе неўміручую сусветную славу, хоць пісаў свае звышглыбокадумныя творы на мове маленькага дацкага народа і тым праславіў яго? Тое ж можна аднесці і да троіцы Анстрэм (бацька,сын,унук) – шведскай дынастыі фізікаў, астраномаў, геафізікаў, сусветную значнасць адкрыццяў якіх не засланіла родная мова 8-мільённага народа.

11. Паспрыяў ці не "могичий русский язык" якому-небудзь беларускаму расейскамоўнаму фізіку (найбольш зоркаваму вучонаму – па "аршыну БССР") у выніковасці ягоных даследаванняў?

12. Калі паспрыяў, то чаму тады ў энцыклапедычных слоўніках галоўнай рысай таго найбольш "зоркавага вучонага" адзначаецца стаж партыйнасці ў КПСС, што не ўласціва для больш-менш вядомага замежнага навукоўца?

13. Ці лічыце Вы апраўданым перавод "Весцяў НАН Беларусі. Серыя біялагічных навук" з беларускай мовы на "узаконенае" двухмоўе, а фактычна на рускае аднамоўе? У выніку лепшыя беларускія навуковыя дасягненні ці будуць спрыяць аўтарытэту АН Беларусі як нацыянальнаму навуковаму аб'яднанню менавіта Беларускай дзяржавы, беларускага народа?

14. Ці адчуваецца ў даверанай Вам установе непасрэдная або ўскосная пагроза пазбавіцца пасады, альбо мець іншыя адчувальныя непрыемнасці за спробу ўкараніць у ёй беларускую мову, калі такая спроба сапраўды мела месца?

15. Наколькі Вы асабіста валодаеце і карыстаецеся беларускай мовай, спрыяеце яе захаванню і развіццю? У чым такое спрыянне выяўляецца?

16. У якой ступені выкарыстоўваецца беларуская мова ў даверанай Вам установе? Хто і што замінае гэтаму?

17. Ці бываюць у Вас моманты адчування, што сваёй пакладзістасцю да непавагі прэзідэнтам краіны і вярхоўнай уладай да беларускай мовы Вы спрыяеце здзяйсненню злачынства супраць яе як Боскага стварэння?

18. Што, на Ваш погляд, неабходна, каб беларуская мова не толькі не ўмерла, але і ўвайшла "на роўных" у сусветную скарбніцу моў цывілізаванай супольнасці народаў?

Будзем вельмі ўдзячны Вам асабіста за прысылку нам звестак.

Яны будуць улічаны пры аналізе стану беларускай мовы ў інтэлектуальным асяроддзі нашага грамадства, планаванні і правядзенні адпаведных пасільных нам мерапрыемстваў, а таксама выкарыстаны для інфармацыі грамадства праз сродкі масавай інфармацыі пра моўную сітуацыю ў краіне.

Загадзя просім прабачэння, калі некаторыя з нашых пытанняў пападуцца Вам рэзкаватымі. Але стан перадсмяротнасці беларускай мовы і беларусаў у этнічных адносінах патрабуе праўдзівага, аб'ектыўнага погляду на сутнасць гэтых з'яў і адэкватнага іх успрыняцця.

*Прафесар, доктар тэхнічных навук*
*Аляксей Саламонаў.*





Уладзімір Арлоў

# Адкуль наш род



(Працяг)

## Жыццё, поўнае прыгодаў

Жыццё першадрукара было напоўненае падарожжамі, узлётамі да вышыняў славы і горкімі расчараваннямі.

З Прагі ён вярнуўся на радзіму, у Вялікае княства Літоўскае, і з дапамогаю заможных землякоў заснаваў друкарню ў Вільні. Францішак Скарына працаваў лекарам, удзельнічаў у складанні законаў дзяржавы. Сябры, баючыся за жыццё першадрукара, адгаворвалі яго ад задуманай паездкі ў Масковію. Аднак Скарына ўсё ж паехаў туды і прапанаваў тамтэйшым уладарам таксама наладзіць друкаванне кніг. Вялікі князь маскоўскі адмовіўся і загадаў спаліць прывезеныя палачанінам кнігі. Маскоўскія валадары не хацелі, каб у іхняй дзяржаве пашыралася кніжная мудрасць. У Маскоўіі простыя людзі павінны былі быць цёмнымі і непісьменнымі рабамі.

Шмат бедаў і цяжкасцяў выпала Скарыне і на радзіме. Ён быў смелы чалавек і адступаў ад правілаў выдання Біблії, што былі зацверджаныя царквою. Гэта лічылася злачынствам, за якое першадрукара маглі не менш як трынаццаць разоў прысудзіць да спалення на вогнішчы.

Скарыне давялося і пасядзець у турме. Туды яго кінулі за братавы даўгі. Даведаўшыся пра гэта, сам кароль і вялікі князь літоўскі Жыгімонт загадаў вызваліць вучонага палачаніна і даў яму вечную ахоўную грамату.

Гэта было прызнаннем вялікіх заслуг доктара Францішка перад народам і дзяржавай.

Апошнія гады жыцця Скарыны прайшлі ў Празе. Там ён працаваў садоўнікам у чэшскага караля і меў славу добрага лекара.

Апрача кніг, якія захоўваюцца цяпер у розных краінах, наш выдатны зямляк пакінуў пасля сябе шмат таямніц.

Дагэтуль дакладна невядома, ні калі ён нарадзіўся, ні калі памёр.

Невядома, хто стварыў да ягоных кніг цудоўныя гравюры.

Вучоныя спрачаюцца пра час яго паступлення ў Кракаўскі універсітэт і нават пра тое, як больш правільна называць Скарыну – Францішак або Францыск...

Таму, калі вы захочаце стаць гісторыкамі і вывучаць жыццё Скарыны, вас могуць напаткаць важныя навуковыя адкрыцці.

## Юбілей асветніка

У 1990 годзе адзначалася 500 гадоў з дня нараджэння выдатнага сына беларускай зямлі.

Гэты юбілей святкаваўся ў Беларусі і Летуве, у Латвіі і Злучаных Штатах Амерыкі, у Польшчы і Аўстраліі – паўсюль, дзе жывуць беларусы, дзе ведаюць пра подзвіг нашага земляка.

Тымі днямі ў Полацку адчынілі Музей беларускага кнігадрукавання. На радзіму першадрукара прыехалі госці з розных гарадоў і краін.

Сярод іх быў, між іншым, і прапрапра... праўнук асветніка доктар Станіслаў Скарына з Канады. Ён, як і ягоны знакаміты продак, надзелены шматлікімі талентамі: гаворыць на сямі мовах, піша музыку і кнігі па медыцыне.

Помнік першадрукару ўжо даўно ўпрыгожвае цэнтральную полацкую плошчу.

Імя славутага палачаніна ўшанавана на мемарыяльных дошках у Кракаве, Празе і Падуі.

Хутка новы велічны помнік з'явіцца ў Менску. А галоўная сталічная вуліца ўжо называецца праспектам імя Францішка Скарыны.

*Пытанні і заданні:*

1. *Раскажы пра дзяцінства Францішка Скарыны.*
2. *Якія навукі будучы асветнік вывучаў у Кракаўскім універсітэце?*
3. *Навошта Скарына паехаў у Падую?*
4. *Чаму вучоны палачанін вырашыў заняцца друкаваннем кніг?*
5. *Калі і дзе выйшла першая беларуская друкаваная кніга? Як яна называлася?*
6. *Чаму мы называем Скарыну беларускім і ўсходнеславянскім першадрукаром?*
7. *Пра што пісаў доктар Францішак у сваіх творах?*
8. *Што мы бачым на малюнках Скарынавых кніг? Раскажы пра партрэт першадрукара.*
9. *Якія прыгоды выпалі на долю асветніка?*
10. *Як нашчадкі шануюць памяць вялікага сына Беларусі?*

## Гетман Астрожскі і перамога пад Воршай

### Новы вораг

Разбіўшы нямецкіх рыцараў пад Грунвальдам, нашы продкі забаявалі мір на сваёй заходняй мяжы. Але хутка ў Вялікага княства Літоўскага з'явіўся небяспечны вораг на ўсходзе. Гэта была Руская дзяржава, якую тады называлі Масковіяй.

Маскоўскія князі аб'ядналі рускія княствы і пачалі прагна пазіраць на суседнюю краіну. Да гэтага Беларусь ніколі не была пад уладаю Масквы.

Масковія распачала з Вялікім княствам бясконцыя крывавыя войны. Руская ваяводы часта нападалі на Полацк, Віцебск, Мсціслаў ды іншыя памежныя беларускія паселішчы. Іх абаронцы мужна біліся з ворагамі, частавалі іх з гарадскіх сценаў кіпучай смалою і варам. Калі ўзяць горад не ўдавалася, захопнікі палілі навакольныя вёскі, гналі ў палон тысячы мірных жыхароў.

Рускія землі доўгі час былі ў татарскай няволі. Хоць яны і вызваліліся, парадкі ў Масковіі засталіся такія ж дзікія і жорсткія, як і пры татарах. Усе павінны былі сляпа выконваць волю вялікага князя і называць сябе ягонымі халопамі – гэта значыць, рабамі. Маскоўскія князі ваявалі не ўменнем, а колькасцю, чужую зямлю выпальвалі і ўчынялі над яе жыхарамі нялюдскія расправы.

### Татарскія набегі

Велізарнаю бядою былі ў той час для нашай Бацькаўшчыны і набегі ваяўнічых крымскіх татараў. Амаль штогод іхняя конніца ўрывалася на землі Вялікага княства, рабавала і вяла людзей у рабства. Крымчакі пакідалі за сабою попел пажарышчаў, целы забітых і незмернае гора жывых.

Але штораз нашы продкі давалі клятву адпомсціць ворагу і выпраўляліся ў пагоню. У 1506 годзе каля горада Клецка беларуска-літоўскія войскі здагналі татарскую арду і ўшчэнт разбілі яе. Чатыры тысячы татараў трапілі ў той дзень у палон, а сорак тысяч палонных жанчын і дзяцей атрымалі свабоду.

Асабліва шмат перамогаў над татарамі здабыў знакаміты беларускі ваявода Канстанцін Астрожскі.

### Князь Канстанцін Астрожскі

Род Астрожскіх паходзіў ад князёў, што некалі валадарылі ў старажытным Тураве. Мужчыны з гэтага роду спрадвеку славіліся ваярскім майстэрствам.

Князю Канстанціну ад самай ранняй маладосці давялося ўдзельнічаць у барацьбе з крымскімі татарамі на землях Беларусі і Украіны. Крымчакі вымаўлялі ягонае імя з павагаю і страхам. Аднойчы Астрожскі захапіў у палон нават самога хана Махмет-Гірэя.

Беларускі ваявода ніколі не выходзіў насустрач татарскім атрадам, калі яны пачыналі набег. Ён чакаў, пакуль ворагі будуць вяртацца са здабычаю назад. Выведнікі сачылі за імі і паведамлялі Астрожскаму, дзе арда рабаўнікоў спынілася на адпачынак.

Князь загадваў сваім коннікам загадзя нарыхтаваць харч, каб не распальваць уначы вогнішча. У цемры воіны асцярожна абкружалі татарскі стан. Захопнікі ў гэты час рэзалі бараноў, смажылі мяса, спакойна балявалі і клаліся спаць. А як толькі ўзыходзіла сонца, на сонных татараў віхурай наляталі княжыя воіны.

Канстанцін Астрожскі ваяваў так удала, што вялікі князь прызначыў яго найвышэйшым гетманам – начальнікам над усімі войскамі дзяржавы. Тады ваяводу было толькі 37 гадоў. Ніхто дагэтуль не атрымліваў гэткай важнай пасады ў такім маладым веку.

Тыя, хто верыў у незвычайны ваярскі талент новага гетмана, не памыліліся. Князь КАнстанцін адолеў ворага ў 63 бітвах.

Астрожскі не толькі бараніў Айчыну са зброяй у руках. Ён будаваў замкі, манастыры і цэрквы, адчыняў на свае грошы школы і шпіталі для хворых. Пра Астрожскага пісалі, што ён быў узорам таго, як трэба жыць і працаваць, каб быць пераможцам.

Найбольшую ж славу прынесла беларускаму гетману перамога над маскавітамі пад Воршай.

### Зноў вайна

Маскоўскі князь Васіль III абвясціў Вялікаму княству новую вайну. Ягоным ваяводам удалося авалодаць старажытным беларускім горадам Смаленскам. Крамлёўскаму ўладару здавалася, што ён без цяжкасцяў зойме ўсю Беларусь. Ён нават загадаў прыгнаць беларускае войска пугамі, як статак жывёлы, да маскоўскае брамы.

Сеючы на нашай зямлі смерць, ворагі захапілі Крычаў, Мсціслаў, Дуброўну і рваліся да МЕнска. Насустрач непрыяцелю выступіў гетман Астрожскі.

Маскоўскія ваяводы сабралі ўсю сваю збройную сілу на беразе рэчкі Крапіўны недалёка ад Воршы. У іх было 80 тысяч коннікаў. Гетман вёў з сабою толькі 25 тысяч конных і пешых воінаў. Ведаючы гэта, чужынцы не сумняваліся, што здабудуць лёгкую перамогу.

Уначы перад бітваю Астрожскі падышоў да Дняпра і пераправіў свае атрады на другі бок ракі, дзе, расцягнуўшыся на некалькі вёрстаў, яго чакала рускае войска. Частка конніцы перайшла раку ўброд. Для астатніх воінаў беларускія майстры хутка навялі масты са звязаных, добра заканапачаных бочак.

На досвітку 8 верасня 1514 года палкі Астрожскага ўжо стаялі ў баявым парадку насупраць ворага. Зірнуўшы направа, гетман бачыў бела-рускую конніцу. Злева рыхтаваліся да бою польскія кон-ныя дружыны, а пасярэдзіне са стрэльбамі-рушніцамі напа-гатове чакала пяхота. Пяхоту прыкрывала частка гарматаў. Астатнія гарматы Астрожскі схаваў у засадзе.

### Бітва на рэчцы Крапіўне

Загрымелі баявыя бубны, заспявалі трубы-сурмы з турыных рагоў, і сеча пачалася.

Воіны Канстанціна Астрожскага лёгка адбілі першую атаку маскоўскай конніцы. Гетман лётаў на сваім даўганогім жарабцы наперадзе і аддаваў загады. Пасля абмену атакамі рускія ваяводы паспрабавалі абкружыць войска Вялікага княства, аднак князь Канстанцін адразу разгадаў гэтую задуму.

Нарэшце гетман ускінуў над галавой булаву і павёў сваю конніцу ў рашучы наступ. Вершнікі з налёту ўрэзаліся ў варожыя шыхты і пачалі працаваць шаблямі і дзідамі. Астрожскі, як і раней, быў навідавоку, натхняючы сваіх воінаў.

Раптам адбылося нешта нечаканае. Коннікі Вялікага княства развярнулі коней назад і па камандзе гетмана сталі паспешліва адыходзіць. Маскоўская конніца з радасным крыкам кінулася ў пагоню.

Вершнікі Астрожскага на ўсёй хуткасці несліся да блізкага лесу. І тут гетман зноў узмахнуў булавой. Ягоныя воіны крута павярнулі на два бакі і паімчалі далей, а рускія апынуліся перад пакінутымі ў засадзе гарматамі.

Гарматнікі ўдарылі па разгубленых ворагах трапнымі стрэламі. Масквіты ў паніцы кінуліся ўцякаць, але палкі Астрожскага ўжо былі гатовя да пагоні. Пяць міляў яны гналі і секлі непрыяцеля, спыніўшыся толькі тады, як надышла ноч.

Шмат хто з чужынцаў патануў у Дняпры і ў Крапіўне, загінуў у балотнай дрыгве або ў густых прыдняпроўскіх лясах.




Гетман вялікі Кастусь Астрожскі

У летапісах занатавана, што пад Воршай сустрэлі сваю смерць 40 тысяч захопнікаў. Дзесяць варожых ваяводаў і колькі тысяч воінаў трапіла ў палон. Вестку пра страшны раз-гром свайго войска князь Васіль III пачаў у Смаленску. Ён загадаў павесіць на гарадскіх валах усіх жыхароў, якія хацелі вярнуць свой горад у Вялікае княства Літоўскае, а сам уцёк у Масковію.

Так развеяліся ягоныя мары пугамі прыгнаць нашае войска пад маскоўскія сцены.

Аршанская бітва засталася ў гісторыі як адна з найбуйнейшых у Еўропе ХУІ стагоддзя. Пасля паразы царскіх ваяводаў на рэчцы Крапіўне амаль усе захопленыя імі гарады былі вызваленыя.

Даведаўшыся пра падзеі пад Воршай, крымскія татары некалькі гадоў баяліся ісці ў набегі на Вялікае княства Літоўскае.

У гонар сваёй выдатнай перамогі гетман Канстанцін Астрожскі на ўласныя грошы пабудаваў у сталіцы нашай дзяржавы Вільні праваслаўныя храмы святой Тройцы і святога Мікалая, якія захаваліся дасёння.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Давайце спяваць па-беларуску

Словы імузыка народныя

## Свецяць, свецяць зорачкі




Свецяць, свецяць зорачкі,
Зоркі брыльянцістыя
На палі, узгорачкі,
На лясы цяністыя.
На палі, узгорачкі,
На лясы цяністыя.

Ціша сёння ўвечары
На ўвесь свет пасцеліца.
Залатымі шышкамі
Мы абсыпем елачку.
Залатымі шышкамі
Мы абсыпем елачку.

Загарыся свечкамі
Залатымі яснымі.
Слава Богу Усявышняму
На зямельцы шчасцейка.
Слава Богу Усявышняму
На зямельцы шчасцейка.

# Жывая кніга прыроды

### Для педагогаў дашкольных установ

### ВОСЕНЬ. ЛІСТАПАД

Лістапад. Апошні месяц восені.

Самы змрочны, самы няўтульны месяц. Рэдкае цяпло змяняецца холадам, снег – дажджом, замаразкі – слатой, адлігай.

Прырода замірае, рыхтуецца да зімы. Прыхавалі свае зімовыя прыпасы птушкі і звяры: краты – дажджавых чарвей; вавёркі – арэхі, жалуды, грыбы; совы – мышэй і дробных птушак; бабры – галінкі і карэнішчы; выдры – рыбу; мышы – арэхі, ягады. Дрэвы скідаюць свае апошнія лісты. Адсюль і назва месяца – лістапад.

Усё менш святла і сонца, усё даўжэй цягнецца ноч. У народзе пра гэты месяц кажуць: у лістападзе досвітак са змрокам сярод дня сустракаюцца.

### ЛІСТАПАД

Сонца ўлетку шчыравала,
Прытамілася відаць,
Мяккіх хмараў прычакала
І пайшло адпачываць.
Шэры дробны дождж цярусіць.
Лісце плавае ў вадзе.
Адляцелі ў вырай гусі,
Восень з кульбаю ідзе. Прыляціць з-за лесу хутка
Вецер колкі і сухі,
Потым коўдраю бялюткай
Лягуць звонкія снягі.

Міхась Пазняко

### ЛІСТАПАД – СНЕГАПАД

Задумалася была пахмурная, як заўсёды, восень. Усё думала, гадала бедная: "Ці то яшчэ пагасціць?" Ды дзе там, нечакана, неспадзявана на самай сярэдзіне свайго апошняга месяца сыпанула зіма злоснай жменяй снегу, адной, другой і яшчэ, яшчэ... "Ідзі, хопіць, і так засядзелася", — незадаволена вурчыць зіма, пазіраючы злоснымі, халоднымі, калючымі вачыма з-пад ілба.

Глянула расчаравана восень на чырвоную рабіну, што так доўга гарэла агнём-полымем, на прыціхлую зялёную сасонку і на ўвішную сінічку – звеставанку зімы...

Пайшла восень некуды далёка-далёка, раз-пораз страсаючы апошнія парудзелыя лісточкі, каб і следу не засталося. А кволы, першы яшчэ марозік сваволіў, падпякаючы старой восені пяты. Знайшоў з каго пацвельвацца – не-не ды і ўшчыкне нямоглую старую то за нос, то за рукі, падганяючы ў далёкую дарогу.

Выйдзеш раным-раненька на вуліцу... І што гэта?! Танюсенькая бела-шэрая пелярынка нібы накінута на плечы зямныя. Дакранешся цёплай рукой да травінкі збялелай, халоднай і штосьці прыемнае, дрыготкае прабяжыць па целе.

Зводдаля заблішчэла лужына, зацягнутая тоненькім шкельцам лёду. Радасны верабейка растапырыў крыльцы і пырхнуў долу на край лужыны. "Тук-тук" дзюбкай, а вады няма. Скокнуў з другога боку – зноў "тук-тук" і зноў нічога няма. "Дзе ж вада?" – здзіўлена павярнуў галоўку да мяне.

Падыдзем да лесу. А за шкляным люстэркам нейкая нязвыклая для вока і для душы пустэча. Толькі голыя галінкі махаюць на ветрыку, нібы развітваюцца з восенню.

Адыходзіць лістапад у прошласць. Прачытана апошняя старонка ў кнізе восені. Надыходзіць зіма – траскучыя марозы, мяцеліца, адлігі, зноў завірухі...

Наталля Суслава.

### Д У Б

Распусціўшы сучча
У глухім прыволлі,
Сам адзін расце ён
На далёкім полі.
Як цар, у кароне
Аб нічым не дбае,
Ці то стогне бура,
Ці віхор гуляе.
На адным ён месцы
Днюе і начуе;
Многа казак знае,
Многа песень чуе.
Дождж падмыў карэнне;
У ім дупла – як хата...
Ён стаіць і дрэмле –
Грозны. Расахаты.

Янка Купала



### ЛІСТАПАД

Як малое птушанятка,
Перабег лісток дарожку.
Кінуўся за жоўтым статкам,
Мільганулі толькі ножкі.
Закружылі па асфальце
За чародкаю чародка.
Любыя, не адлятайце –
Будзе вырай ваш кароткі.
Зменіцца зіма вясною,
Узляціце зноў на дрэвы.
Зноў шчасліваю парою
Я пачую вашы спевы.

Васіль Вітка

### БАРАВІК

Як завуцца белыя грыбы-браты? Хто за кім і дзе ўладарыць у грыбным царстве?..

Дык слухай, дружа мой, і запамінай – потым табе яшчэ не раз прыдасца такая навука.

Першымі ў чэрвені з'яўляюцца КАЛАСАВІКІ – яны растуць, калі цвіце-красуе жыта.

Потым разам з пачаткам жніва ў барах высыпаюць ЖНІЎНІКІ.

А восенню, у верасні і кастрычніку, калі на зямлю ападае лісце, грыбнікоў радуюць крамяныя ЛІСТАПАДНІКІ.

Так, усе яны родныя браты, хоць растуць у розныя поры года і часта непадобныя адзін на ад-наго. І колерам капялюшыка, і памерам ножкі-карэньчыка.

Самыя раннія белыя грыбы, як яшчэ іх называюць, сустракаюцца ў ду-бровах. І капялюшыкі, і ножкі ў баравікоў-ду-бровікаў пафарбаваны ў аднолькава светлы колер.

У бярозавых гаях растуць каржакаватыя баравікі з самавітымі карычневымі капелюшамі.

У яловым лесе, сярод брусніцчыку і шапкаў моху, хаваюцца ад людскога вока самыя высокія з братоў-уладароў.

А ў сасновым бары гаспадараць баравікі-чарнагаловікі.

Вось бачыш, дружа, які вы-бар – на любы густ. І які б ні цяжкі быў кошык, заўсёды памятай: грыбнік без баравіка – што салдат без медаля.

Уладзімір Ягоўдзік.

*(Працяг у наступным нумары).*

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік: ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі: № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў: 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by

Рэдакцыйная калегія:
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 1. 11. 99 г.
Наклад 3300 асобнікаў. Замова № 3056
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 60 000 руб., 3 мес.- 180 000 руб.
Кошт у розніцу: 20 000 руб.